ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 37 (2491) 12 верасня 1996 г.
Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## ПЕСНЯРА ВІТАЛІ ПЕСНЯЙ





Зноў на плошчу імя Якуба Коласа ў Мінску прыйшло свята паэзіі "Песняй вітаю я вас!" Адбывалася яно, як заўсёды, у Дзень ведаў 2 верасня. Прымеркавана было гэтым разам і да 90-годдзя пачатку літаратурнай дзейнасці песняра. 1 верасня 1906 года ў першым нумары "Нашай долі" быў змешчаны верш Якуба Коласа "Наш родны край".

Пра важнасць славянскага пісьменства і ролю ў ім беларускіх асветнікаў гаварыў на свяце дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа Адам Мальдзіс. Як да жывых, звярнулася да бронзавых песняра і герояў яго твораў, што стаяць на плошчы, дацэнт Белдзяржуніверсітэта, заслужаны работнік вышэйшай школы Вольга Казлова. Любоў да незабыўнага песняра выказалі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Генадзь Бураўкін і паэт Мікола Мятліцкі. Юных слухачоў вітала ўнучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч. Гучалі творы песняра і вершы ў чытанні аўтараў -- вучняў мінскіх школ. Свята "аздаблялі" песнямі самадзейныя артысты -- студэнты Беларускага ўніверсітэта культуры.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ШЛЯХАМІ "ЗЯМЛІ І ВОЛІ"

# БРАТЫ КАТЫРЛЫ

Кульмінацыйны момант жыцця галоўнага героя нашых нататак звязаны з Оршай, вядомай сёння як буйны чыгуначны вузел на Віцебшчыне (ужо не гаворым, што гэта радзіма Уладзіміра Караткевіча, і пра многае іншае, чым славіцца горад). У часы вызвалення сялян і паўстання Каліноўскага пра чыгунку тут яшчэ не чулі, але Орша і тады была прыкметным павятовым горадам, праўда, не Віцебскай, а Магілёўскай губерні. І дарогі паштовыя, стратэгічныя тут сыходзіліся -- на Маскву і Варшаву, а праз Віцебск бойкі гарадок нацэльваўся шашой на Пецярбург. Адпаведна тут стаялі войскі, не спала ў шапку паліцыя.

12 сакавіка 1863 года (у Польшчы бушавала паўстанне, ды і на Беларусі і ў Літве ўжо сям-там пастрэльвалі) тут здарылася чэпэ: з'явілася бунтоўная пракламацыя -- друкаваны лісток з пячаткай "Земля и Воля -- Русский Центральный Народный комитет".

Гэта азвалася, кідала пальчатку царызму таямнічая ўсерасійская падпольная арганізацыя, звязаная ў гісторыі з імёнамі М. Чарнышэўскага і яго паплечнікаў.

Лістоўка, што з'явілася ў Оршы, была без загалоўка і запаміналася па першых словах, якія закраналі балючы нерв часу, пераклікаліся з трывожнымі думкамі многіх: "Льется польская кровь, льется русская кровь... Отчего же и для чего она льется? Край, наводненный русскими войсками, народ, истерзанный нашими тиранами, не мог далее выдержать беспощадного гнета и на последние жестокости правительства ответил всенародным восстанием". Армія і ўвесь народ Расіі заклікаліся падтрымаць справядлівую барацьбу палякаў, аднадушна паўстаць супраць агульнага ворага -- расійскага самадзяржаўя.

Улётка "Льецца польская кроў..." ужо распаўсюджвалася ў Маскве і Пецярбургу. І вось чарга дайшла да Беларусі.

У Оршы, як пасля высветлілася, гэтую лістоўку пашыраў невядомы малады чалавек у кажуху. Дзейнічаў вельмі смела і рызыкоўна. Адзін экземпляр сунуў на плошчы ў непадпісаным запячатаным канверце салдату-артылерысту. Другі даў выпадкова сустрэтаму ў кавярні маладому канцылярысту з Магілёва Савінічу, якога наш канспіратар адкрыта падбухторваў рыхтаваць зброю, вербаваць кадры паўстання, складаць ячэйкі-дзесяткі паўстанцкай арганізацыі. Зламыснік, гаварылася ў матэрыялах следства, "после клятв и увещаний, что все им открытое будет сохранено в тайне, высказал, что прибыл в Оршу из Витебска по поручению от комитета пропагандировать мятеж и отыскивать лиц, готовых принять в нем участие..."

Дзеянні рызыканта-крамольніка па шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын вельмі хутка скончыліся провалам. Салдат данёс па начальству, адразу (памог выпадак) выйшлі на Савініча, той даволі ахвотна вызваўся памагчы злавіць агітатара, які, паводле яго слоў, толькі што выехаў з Оршы на Віцебск. Ды і ўвогуле ў Савініча выявіліся пэўныя вышукныя здольнасці -- яшчэ раней у размове з бунтаўніком ён чамусьці прыкінуўся каталікам (хаця такім не быў), хітранька падтрымаў польскую гаворку свайго небяспечнага суразмоўніка.

Крамольніка дагналі на сёмай вярсце віцебскай дарогі, калі ён, пэўна, ужо лічыў сябе ў бяспецы. Адабралі пяцізарадны (нішто сабе!) рэвальвер, яшчэ адзін лісток "Льецца польская кроў..."

Пашпарт, выдадзены 1 лістапада 1862 года Віцебскім земскім судом (так называлася тады павятовая паліцыя) на свабоднае жыхарства ва ўсіх гарадах імперыі, быў у поўным парадку.

Высветлілася, што гэта вольны слухач Пецярбургскага ўніверсітэта Васіль Ігнатавіч Катырла. Дваццаці пяці гадоў. Дваранін Віцебскага павета. Бацькоў ужо няма ў жывых. Брат у Пецярбургу, чакае пасады.

(Працяг на 4-й стар.).

## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА



**Трэці раз прайшло на нашай зямлі прыгожае і важнае свята -- Дзень беларускага пісьменства і друку.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 4-й стар.).*

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ   ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ   ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА*



**2 верасня пачала работу другая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання. Як і меркавалася, пераважала тэма рэферэндуму і прапануемага Прэзідэнтам новага варыянта Канстытуцыі. Адразу ж пасля пасяджэння сесіі група дэпутатаў Вярхоўнага Савета сустракалася каля Палаца чыгуначнікаў з выбаршчыкамі. Іх сабралася каля 5 тысяч чалавек. У выступленнях прагучалі заклікі да імпічменту Прэзідэнта.**

**НА ЗДЫМКУ: выступае Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. ШАРЭЦКІ.**



**2 верасня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА сустрэўся са студэнтамі-першакурснікамі ВНУ рэспублікі. Пасля пажаданняў педагогам зберагаць нашы будучыя кадры (цяперашнім жа першакурснікам жыць у XXI стагоддзі) Прэзідэнт закрануў праблемы вышэйшай школы Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.**

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## АБ СКЛІКАННІ УСЕБЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА СХОДУ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь у мэтах забеспячэння найбольш поўнага ўдзелу шырокіх слаёў насельніцтва ў абмеркаванні прымаемых Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі мер па пераадоленню эканамічнага крызісу, стабілізацыі сацыяльнай абстаноўкі ў грамадстве пастанавіў склікаць 19 кастрычніка 1996 года ў горадзе Мінску Усебеларускі народны сход.**

**Устаноўлены склад удзельнікаў Усебеларускага народнага сходу ў колькасці 5 000 чалавек, у тым ліку ад горада Мінска -- 800 чалавек, ад кожнай вобласці -- па 650 чалавек.**

**На абмеркаванне Усебеларускага народнага сходу выносяцца асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь і пытанні, прапанаваныя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на рэспубліканскі рэферэндум.**

**Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, усім дзяржаўным сродкам масавай інфармацыі прапанавана арганізаваць шырокае асвятленне падрыхтоўкі Усебеларускага народнага сходу, абмеркаванні выносімых на яго дакументаў і прамую трансляцыю работы сходу.**

## ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ ПРАВЯДЗЕННІ РЭСПУБЛІКАНСКАГА РЭФЕРЭНДУМУ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:**

**1. Унесці на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пытанне аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму.**

**2. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету ўключыць у бюлетэнь для тайнага галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме наступныя пытанні, прапанаваныя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь:**

**2.1. Перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі) на 3 ліпеня -- дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне.**

**2.2. Ці выступаеце вы за свабодныя, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі!**

**2.3. Ці падтрымліваеце вы адмену смяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь!**

**У адпаведнасці з артыкуламі 1, 14 і 39 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь" пытанне, прадугледжанае пунктам 2.1, вынесці на абавязковы рэферэндум, рашэнне якога з'яўляецца канчатковым і мае абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, пытанні, прадугледжаныя пунктамі 2.2 і 2.3 -- на кансультатыўны рэферэндум, рашэнне якога мае рэкамендацыйны характар.**

**3. Пытанне аб уключэнні ў бюлетэнь для галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме "Аб прыняцці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года са зменяннямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь)" разгледзець у Вярхоўным Савеце пасля прадстаўлення Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь тэксту Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які выносіцца на рэферэндум.**

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ.**

27 жніўня 1996 г., г.Мінск.
N 522-XIII

*ПРАВАКАЦЫЯ*

## С. ШАРЭЦКІ АБУРАНЫ

**Аб пачатку маштабнай правакацыі супраць кіраўніка вышэйшай заканадаўчай галіны ўлады заявіў, выступаючы 30 жніўня перад журналістамі, Сямён Шарэцкі. Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі паведаміў, што раніцай гэтага ж дня ён атрымаў на сваё імя пісьмо наступнага зместу: "Ваша Правасхадзіцельства, я рад інфармаваць вас, што пагадненні, якіх мы дасягнулі ў час вашага двухтыднёвага візіту ў ЗША, паслядоўна выконваюцца. Фінансавыя актывы, пра якія вы гаварылі адносна ажыццяўлення кампаніі ў беларускім парламенце ў верасні, выдзелены і будуць дастаўлены вам праз нашага прадстаўніка ў тры этапы. Першую частку ў суме 2 мільёны долараў ЗША вы атрымаеце да 1 верасня 1996 года. Другая частка, у такой жа колькасці, як вы прасілі, будзе пераведзена ў якасці доўгатэрміновага крэдыту на рахунак Белгаразамежгандлю персанальна для праектаў вашага сына. Мы спадзяёмся, што да сярэдзіны снежня вы зможаце кансалідаваць дэпутатаў парламента і перакапаць лідэраў камуністычнай групы падтрымаць вашы планы. Мы рэкамендуем ажыццяўляць шырокую актыўнасць сярод насельніцтва і палітычных партый Беларусі ў адносінах да дакумента "Аб небяспеках рэферэндуму для знешняй палітыкі". Я спадзяюся, што вы своечасова атрымалі гэты дакумент. Я жадаю вам поспехаў у рэалізацыі вашых планаў у імя вашай дзяржавы. З вялікім задавальненнем запрашаю вас з сям'ёй наведаць Фларыду, калі гэта будзе зручна для вас у гэтым або наступным годзе, для камфартабельнага адпачынку. Наш прадстаўнік прыбудзе ў Мінск 5 верасня з Мюнхена. Шчыра Ваш Дж.Мэцью. Вашынгтон -- Варшава, ЗША -- Польшча. 19 жніўня 1996 г."**

**На думку Сямёна Шарэцкага, гэта пісьмо -- правакацыя як у адносінах да яго асабіста, Вярхоўнага Савета, так і да камуністаў, якіх трэба ўгаворваць штосьці рабіць. Ён паведаміў, што ў час візіту парламенцкай дэлегацыі ў ЗША сустрэчы з амерыканскім бокам праходзілі толькі на афіцыйным узроўні і з чалавекам па імені Дж.Мэцью ён ніколі не быў знаёмы, а тым больш не ўдзельнічаў з ім у распрацоўцы нейкіх планаў, пра якія ўпамінаецца ў фальшыўцы. Не бачыў у вочы Сямён Шарэцкі і дакумент, што прыводзіцца ў пісьме. Што ж датычыць яго сына, то, як адзначыў спікер, ён займае ў Белгаразамежгандлі звычайную, а не кіруючую пасаду і, паводле водзыва калег і свайго начальства, старанны і сціплы чалавек. На думку Старшыні Вярхоўнага Савета, "гэта вутка падобна на тую, што хадзіла пад назвай "галандскай" наконт С.Шушкевіча".**

**Па словах Сямёна Шарэцкага, дасланы ліст з'яўляецца нядобрым знакам надыходзячай у краіне сітуацыі, калі будуць спраўляць баль беззаконнасць і беспакаранасць. Спадар Шарэцкі запэўніў, што Вярхоўны Савет і ён асабіста зробяць усё магчымае, каб у рэспубліцы была адноўлена законнасць. "Калі падобныя рэчы з'яўляюцца ў адносінах да аднаго з кіраўнікоў дзяржавы, можна ўявіць, што чакае тых людзей, якія працуюць на вытворчасці. У іх могуць быць памылкі, і гэта можна выдаваць за шкодніцтва. Калі ж памылак няма, іх можна такім шляхам проста прыпісаць і стварыць "ворагаў народа". Мы гэта ўжо перажылі", -- заявіў з гэтай нагоды спікер парламента.**

*САЦЫЯЛОГІЯ*

## КОЛЬКІ "ВАЖЫЦЬ" КАШАЛЁК

**Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў правёў рэпрэзентатыўнае апытанне насельніцтва краіны. 1 535 рэспандэнтам спецыялісты НІСЭПД задалі пытанне, як яны ацэньваюць сваё матэрыяльнае становішча.**

**Атрыманыя адказы сведчаць, што 21,3 працэнта рэспандэнтаў лічаць сябе беднымі, 39,2 працэнта ацэньваюць сваё матэрыяльнае становішча ніжэй сярэдняга. Сярэдне жывуць 36 працэнтаў апытаных, а вышэй гэтага ўзроўню -- толькі 2,3 працэнта. Высокай матэрыяльнай забяспечанасцю могуць пахваліцца толькі 0,3 працэнта рэспандэнтаў.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

СТАРШЫНЯ Гродзенскага аблвыканкома Аляксандр Дубко выдаў распараджэнне накіраваць у калгасы і саўгасы вобласці 6 740 студэнтаў. Як і ў часы "развітога сацыялізму", яны будуць там капаць бульбу.

УЗРОВЕНЬ беспрацоўя ў Гродне складае 5,3 працэнта. А ў цэлым па Гродзеншчыне на 1 жніўня 1996 года налічвалася 25 728 беспрацоўных. Толькі нямногім больш за 10 тысяч з іх атрымлівалі дапамогу.

КАЛЯ ТЫСЯЧЫ чалавек увойдзе ў ініцыятыўную групу па збору подпісаў для правядзення рэферэндуму, парапельнага з аб'яўленым Прэзідэнтам А. Лукашэнкам. Аб гэтым заявілі ў штаб-кватэры Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Для гэтага ініцыятарам альтэрнатыўнага рэферэндуму трэба сабраць не менш за 450 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі.

З 1 ВЕРАСНЯ спыніла сваю работу "Радыё 101,2". Гэта была, бадай, самая папулярная ў Беларусі радыёстанцыя, якая вызначалася добрай музыкай і дасканалай беларускай мовай. "Радыё 101,2" нібыта стварала перашкоду для сістэмы сувязі "Алтай", і таму яго адключылі.

У МАСКВЕ, над доме 17 па завулку Вялікі Казікінскі, дзе 5 апошніх год жыў вядомы беларускі пісьменнік Алесь Адамовіч, устаноўлена бронзавая мемарыяльная дошка з яго барэльефам. На ўрачыстым адкрыцці было сказана шмат добрых слоў пра нашага выдатнага земляка. Барыс Ельцын прыслаў кветкі. На трохколернай стужцы былі напісаны словы: "Алесю Адамовічу ад Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі".

*ЯБЛЫЧНАЯ ПРАБЛЕМА*



**Ёсць жаданне, але няма магчымасці... Гэтыя словы з кінафільма ўспамінаюцца, калі бачыш доўгую чаргу грузавікоў з яблыкамі ля варот Гомельскага віназавода. Ураджай у садах выдаўся на славу, а вось перапрацаваць яго няма магчымасці: у выніку вядомай гарбачоўскай антыалкагольнай кампаніі было бяздумна знішчана нямала патрэбнага сёння абсталявання. Магутнасць завода дазваляе прыняць у дзень усяго 100 тон яблык, а іх прывозяць намнога больш. Так што даводзіцца збываць сыравіну за межы вобласці, а то і рэспублікі.**

*СНІД НАСТУПАЕ*

## ЭКСПЕРТЫ ААН У БЕЛАРУСІ

**Працягваецца расследаванне ўспышкі ВІЧ-інфекцыі сярод наркаманаў у горадзе Светлагорску. Па звестках прадстаўніцтва ААН у Беларусі, на пачатак жніўня ў горадзе афіцыйна зарэгістравана 290 выпадкаў інфіцыравання.**

**Аднак трэба ўлічыць, што рэальная колькасць заражаных вірусам СНІДу, як правіла, перавышае афіцыйныя даныя ў 5--10 разоў.**

**Па ацэнках экспертаў ААН, кожны дзесяты жыхар Светлагорска з'яўляецца шпрыцавым наркаманам, і каля трэці з іх заражаны вірусам СНІД. Гэта значыць, што фактычная колькасць інфіцыраваных сёння ў горадзе ўжо звыш дзвюх тысяч чалавек, сярод якіх большасць -- маладыя мужчыны. Яны і "ўзначалілі" першую хвалю эпідэміі. Наступная чакаецца сярод жанчын.**

## ДЫСКУСІЯ

# ТУМАН ДЫЛЕТАНЦТВА І ТЭНДЭНЦЫЙНАСЦІ

**У рэдакцыю газеты "Голас Радзімы"**

**Шаноўная рэдакцыя! Хацеў бы прыняць удзел у дыскусіі, якая пачалася ў "Голасе Радзімы" пасля публікацыі адказаў на пытанні газеты прафесара П.Петрыкава. А таму прашу апублікаваць на старонках вашай паважанай газеты мой водгук на рэцэнзію П.Петрыкава "Туман "русафобіі" ахутаў Беларускую энцыклапедыю". Яна была змешчана ў трэцім нумары часопіса "Беларуская думка" за 1996 год. Спадзяюся, што месца знойдзецца, бо прадметам гутаркі з'яўляюцца метадалагічныя, канцэптуальныя падыходы да асвятлення айчыннай гісторыі. Надуманы тэзіс аб "русафобіі" ў беларускай гістарыяграфіі зараз шырока выкарыстоўваецца праціўнікамі нацыянальнага адраджэння беларускага народа ў нашай рэспубліцы для абвінавачвання гісторыкаў, якія ў першай палове 90-х гадоў паспрабавалі паказаць у сваіх працах гісторыю Беларусі з агульнапрынятых ва ўсіх суверэнных краінах нацыянальна-дзяржаўных пазіцый. Думаю, што ў маім водгуку пераканаўча раскрыты змест і ўзровень "творчай лабараторыі" П.Петрыкава, ягоных намаганняў вярнуць беларускую гістарыяграфію на пазіцыі "западнорусизма".**

**Міхась БІЧ.**

У САКАВІЦКІМ нумары "Беларускай думкі" (1996 год) апублікавана рэцэнзія члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі, доктара гістарычных навук, прафесара П.Петрыкава на першыя два тамы "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (ЭГБ) пад назвай "Туман "русафобіі" ахутаў Беларускую энцыклапедыю". На думку рэцэнзента, "найбольш адметная, галоўная рыса" гэтых кніг -- "ярка выражаны антырусізм, а ў многіх выпадках -- зацятая русафобія". Абвінавачанне -- з разраду крымінальных. Калі гэта сапраўды так, то аўтараў і рэдактараў ЭГБ трэба не толькі знімаць з пасадаў, але і прыцягваць да суда за распальванне міжнацыянальнай варожасці.

Сваю выснову прафесар Петрыкаў спрабуе пацвердзіць аналізам артыкула М.Ткачова "Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг." (ЭГБ, т.2, с. 189--200) і некалькімі спасылкамі на чатыры іншыя артыкулы, якіх, аднак, па сутнасці не разглядае. Супастаўім: у поле зроку рэцэнзента трапілі 5, а ўсяго ў 1--2 тамах ЭГБ змешчана каля 5 000 артыкулаў агульным аб'ёмам 195 друкаваных аркушаў. Калі нават прызнаць ацэнку 5 артыкулаў справядлівай, дык ці можна зусім бяздоказна распаўсюджваць яе на ўсе астатнія, як гэта зрабіў П.Петрыкаў? Ці ёсць у такім падыходзе хоць кропля аб'ектыўнасці, навуковасці?

Першы факт, які закранае рэцэнзент, -- скарачэнне насельніцтва Беларусі з канца 40-х да пачатку 70-х гадоў XYII стагоддзя з 2,9 мільёна да 1,4 мільёна, адзначанае ў названым артыкуле М.Ткачова. Лічбы не абвяргаюцца, але адной фразай ставяцца пад сумненне. "Папершае, -- гаворыцца ў рэцэнзіі, -- гэтыя лічбы недакладныя, яны не грунтуюцца на бясспрэчных крыніцах". Фраза -- зусім пустая, бо рэцэнзент не ведае ні крыніц, на аснове якіх зроблены падлікі, ні методыкі падлікаў, ні таго, хто выканаў іх (ва ўсякім разе ў рэцэнзіі ні слова не сказана пра гэта). Варта адзначыць, што прыведзеныя лічбы запазычаны М.Ткачовым з манаграфіі вядомага польскага вучонага Е.Можы "Дэмаграфічны крызіс у Літве і Беларусі ў другой палове XYII ст." (Познань, 1965 год). Ніхто з сапраўдных спецыялістаў у галіне гістарычнай дэмаграфіі не аспрэчваў яе навуковыя вартасці. Падлічаныя Е.Можы паказчыкі -- агульнапрынятыя ў гістарычнай навуцы, у тым ліку ў беларускай гістарыяграфіі (гл. "Гісторыя Беларускай ССР", Т.I. Мн., 1972. С. 328). Ды іншых проста няма ў навуковай літаратуры.

Узнікае пытанне: ці можа сапраўдны вучоны-гісторык літаральна адным росчыркам пяра паставіць пад сумненне, а па сутнасці перакрэсліць вынікі шматгадовага, грунтоўнага ва ўсіх адносінах даследавання, як гэта зрабіў П.Петрыкаў?

Але яшчэ больш уражвае тое, што рэцэнзент напісаў далей. "Па-другое, -- працягвае ён сваю думку, -- маніпуляцыя імі (прыведзенымі ў артыкуле лічбамі Е.Можы. -- **М.Б.**) выкарыстоўваецца для таго, каб "даказаць", што ад рук фашысцкіх акупантаў і іх памагатых загінуў кожны чацвёрты, а ад рук маскоўскіх акупантаў толькі ў сярэдзіне XYI ст. -- кожны другі наш жыхар". З гэтых слоў вынікае, быццам адзначаныя "маніпуляцыі" робіць аўтар энцыклапедычнага артыкула. Але нічога падобнага ў ім няма. Уласныя разважанні П.Петрыкаў прыпісвае М.Ткачову. Акрамя таго рэцэнзент дапусціў тут грубую фактaлагічную памылку, бо ў артыкуле М.Ткачова разглядаюцца падзеі не сярэдзіны XYI, а 50--60-х гадоў XYII стагоддзя. Наўрад ці можна лічыць гэтую памылку "агрэхам" машыністкі.

Затым П.Петрыкаў прыводзіць дзве дакументальныя цытаты з артыкулаў 2-га тома ЭГБ аб жахлівых расправах маскоўскіх ваяводаў з жыхарамі Віцебска і Вільні, якія аказалі супраціўленне акупантам. Ніякага крыніцазнаўчага аналізу пры гэтым не робіць і дэкларатыўна адносіць іх да "выдумак" і "легендаў". Не ведае, відаць, што гэтыя і аналагічныя ім дакументы публікаваліся ў працах вядомых расійскіх гісторыкаў (С.Салаўёва, А.Мальцава і інш.). Не зважае, што ў артыкуле М.Ткачова неаднаразова цытуюцца загады цара Аляксея Міхайлавіча сваім ваяводам аб спальванні гарадоў і вёсак, захопе і вынішчэнні іх жыхароў у выпадках, калі яны супраціўляліся заваёўнікам. Цытуюцца таксама данясенні аб выкананні гэтых загадаў, скаргі жыхароў на імя цара, якім нельга не верыць (гл. Т.2, с.191, 193, 194, 196, 197 і інш.). Вось што, напрыклад, паведамляў цару ваявода Трубяцкой у 1655 годзе: "А пришод, государь, к Слониму в городе Слониме литовских людей (беларусаў. -- **М.Б.**), которых застали, посекли и город Слоним, и слободы и Журавицкой униацкой монастырь... и костелы жгли и людей побивали и многие места и сёлы и деревни и за Слоним вёрст по 20 и больше жгли ж и разорили и воевали сентября по 1-е число. А назад, государь, от Слонима шли товарищи мои ... к Клецку иными розными ж дорогами жилыми же и невоеванными местами, и те, государь, места по тому ж воевали, жгли и людей побивали и в полон имали и совсем разоряли без остатку" (т.2, с.197).

Абыходзячы або дэкларатыўна дэзавуіруючы гэтыя і многія іншыя дакументальныя сведчанні, П.Петрыкаў абвінавачвае М.Ткачова і рэдкалегію тома ў замоўчванні віны ў знішчэнні насельніцтва Беларусі другога боку. "Што тварылі, -- пытаецца ён, -- нашы Радзівілы, Сапегі, Пацы і інш. з тымі, хто быў за ўз'яднанне Беларусі з Расіяй, хто добраахвотна пераходзіў пад "высокую царскую руку"? Аднак, насуперак заяве П.Петрыкава, гэтае пытанне ў ЭГБ не замоўчваецца. М.Ткачоў адзначыў, што жыхары Беларусі (і ўсяго ВКЛ), якія ў час вайны ўхіляліся ад вайсковых абавязкаў, паводле Статута ВКЛ 1588 года, лічыліся здраднікамі і за гэта "караліся горлам" (смерцю). На с.195 (т.2) прыведзены факт вынішчэння ў канцы 1654 года войскам ВКЛ на чале з Радзівілам і Гансеўскім жыхароў вёсак у раёне Клічава, якія прысягнулі цару. На с.198 гаворыцца: "Не менш за непрыяцеля мясцовае насельніцтва рабавалі і конныя атрады Лісоўскага, якія ішлі з Полаччыны ў Берасцейскі павет... Не адставалі ад іх і наёмнікі, якім было ўсё роўна каго рабаваць".

М.Ткачоў не замоўчваў фактаў прысягі цару пад уплывам агітацыі маскоўскіх лазутчыкаў нейкай часткі насельніцтва Беларусі, асабліва на пачатку вайны. Аднак не перабольшваў іх распаўсюджанасці і значэння (што робіць П.Петрыкаў). У артыкуле паказана мужная і працяглая абарона жыхароў Смаленска, Віцебска, Мсціслава, Гомеля, Быхава, Крычава, Дуброўны і іншых гарадоў і мястэчак, якія захопнікам давялося браць з боем. З буйных гарадоў нядоўга супраціўляліся толькі Магілёў і Полацк. Гэтыя і іншыя факты сведчаць аб поўнай неадпаведнасці гістарычным рэаліям заявы П.Петрыкава аб сотнях тысяч беларусаў, якія добраахвотна пераходзілі на бок Масквы. Вызначыць колькасць добраахвотных прыхільнікаў уз'яднання з Расіяй проста немагчыма, паколькі "тишайший" Аляксей Міхайлавіч у сваіх граматах-зваротах да "адзінаверных беларусаў" не толькі абяцаў за пераход на бок Масквы розныя царскія міласці, але і папярэджваў, што за любое супраціўленне іх чакае смерць або палон. На паводзіны беларускіх сялян, мяшчан і часткі шляхты праваслаўнага веравызнання ўздзейнічалі не толькі царысцкія ілюзіі, але і пагрозы. У беларусаў-католікаў і уніятаў, а таксама яўрэяў такіх ілюзій не было. Цар ім нічога не абяцаў, а з вопыту мінулых войнаў яны нічога добрага ад маскоўскіх ваяводаў не чакалі. Таму супраціўляліся ім да канца. Не ўлічваць пазіцый гэтай часткі насельніцтва Беларусі, як робіць П.Петрыкаў, нельга.

Але і праваслаўныя беларусы, найперш сяляне, неўзабаве пераканаліся, што рэальна азначалі абяцанні цара. Ужо ў самым пачатку вайны ў яго стаўку пад Смаленскам пасыпаліся скаргі ад жыхароў "вызваленых" мясцовасцей Беларусі. Сяляне вёсак Любавіцкага стана Аршанскага павета ў верасні 1654 года пісалі: "Как мы, сироты твои, прослышали твое государево пришествие, и мы, сироты твои, тебе, государю, с хлебом и солью били челом. А ныне у нас, сирот твоих, женишка и детишка, все без вести распропали, потому что побрали твои государевы люди и развезли по разным полкам, и к тебе государю под Смоленск, а животишка, статки все у нас и скотину и хлеб поимали, и домишка пожгли, скитаемся по лесам нагие и босые, сидим на пепелище, с холоду и голоду вконец погибли и разорены до основания". Такая палітыка маскоўскіх уладаў неўзабаве выклікала масавае супраціўленне насельніцтва Беларусі ў форме партызанскага руху, які ўрэшце стаў адной з галоўных прычын паражэння маскоўскіх войскаў у вайне 1654--1667 гадоў. І зноў узнікае пытанне: чаму рэцэнзент праігнараваў гэтыя дакументы і факты?

Абмінуў ён і артыкул В.Мялешкі "Антыфеадальная вайна 1648–1651 гг." (т.1, с.133–135), ахвяры якой уліліся ў агульны паказчык страт насельніцтва Беларусі ў канцы 40-х — пачатку 70-х гадоў XYII стагоддзя (1,5 мільёна чалавек з 2,9 мільёна). Гэта была, па сутнасці, грамадзянская вайна ў Беларусі, у ходзе якой паўстанцкія казацка-сялянскія атрады вынішчалі шляхту, а шляхецкія апалчэнні разам з атрадамі наёмнікаў пад агульным камандаваннем гетмана Я.Радзівіла надзвычайна жорстка расправіліся з многімі тысячамі паўстанцаў і з іх сем'ямі. У 1649 годзе ў ходзе карнай экспедыцыі супраць гарадоў, што падтрымалі паўстанне, яны вынішчылі практычна ўсё насельніцтва Пінска, Турава, Петрыкава, Мазыра, Чэрыкава, Чачэрска, Лоева. Канкрэтныя факты і жудасныя формы вынішчэння на аснове дакументаў паказаны ў названым артыкуле В.Мялешкі.

Такім чынам, "уклад" паноўкарнікаў у "дэмаграфічны крызіс" у Беларусі ў другой палове XYII стагоддзя ў Энцыклапедыі паказаны. А П.Петрыкаў, не зважаючы на прыведзеныя ў ёй факты, фармулюе сваё абвінавачанне: "Маўчыць аб гэтым Энцыклапедыя. Таму што галоўная задача яе рэдкалегіі — зрабіць з "маскаля" жахлівае пудзіла, пасеяць у душах беларусаў недавер і варожасць да рускай "імперскай" нацыі, нашых рускіх братоў". Думаю, што чытачы самі могуць зрабіць высновы і даць ацэнку метадаў рэцэнзавання прафесара Петрыкава.

У супярэчнасці з навуковым падыходам рэцэнзент адносіць да беларускага этнасу толькі праваслаўных насельнікаў краю, праводзіць думку, што беларусы, якія перайшлі ў каталіцтва ці уніяцтва, ужо не з'яўляліся беларусамі, а станавіліся палякамі. Для беларускай эліты пераход у каталіцтва сапраўды быў крокам да паланізацыі, але яна адбывалася на працягу некалькіх пакаленняў. Факты сведчаць, што нават у пачатку XX стагоддзя прадстаўнікі знатных мясцовых родаў (Радзівілаў, Ваньковічаў, Скірмунтаў і інш.) не выракаліся сваіх беларускіх каранёў. Што да сялян і мяшчан, то для іх перамена веры практычна не суправаджалася адрачэннем ад роднай мовы, традыцый, звычаяў і г.д. Таму адлучэнне католікаў і уніятаў ад беларускага этнасу пярэчыць элементарным прынцыпам этналогіі. Дарэчы, пачатак акаталічвання беларусаў, які П.Петрыкаў звязвае з Люблінскай уніяй 1569 года, на самай справе адносіцца да часоў Крэўскай уніі 1385 года.

Наколькі рэцэнзент арыентуецца ў гісторыі Беларусі перыяду ВКЛ і Рэчы Паспалітай, сведчаць яго заявы, аб тым, што "ў 1597 г. было забаронена ўжыванне на дзяржаўным узроўні беларускай мовы", што "ніхто з беларускіх "стаўпоў Айчыны", у тым ліку канцлер ВКЛ Леў Сапега нават пальцам не паварушыў, каб адстаяць у "сваёй" дзяржаве сваю родную мову", што "яны ўсё рабілі для таго, каб ... паставіць каталіцкі крыж (?!) на этнічна-беларускай свядомасці". Доктар гістарычных навук Петрыкаў памыляецца, адносячы да 1597 года падзею, якой увогуле не было. Ён не ведае (ці свядома замоўчвае) агульна-вядомыя факты, якія сведчаць, што шляхта і магнаты Беларусі ў час узнікнення пагрозы дзяржаўнаму статусу беларускай мовы ў ВКЛ абаранялі яе шляхам уключэння ў кодэксы законаў -- Статуты ВКЛ 1566 і 1588 гадоў -- спецыяльных артыкулаў, якія абавязвалі земскіх пісараў весці дзяржаўнае справаводства менавіта на гэтай мове.

Незаслужана ачарніў П.Петрыкаў Льва Сапегу -- вялікага патрыёта ВКЛ, які публічна прызнаваў у якасці роднай беларускую мову. Менавіта пад яго кіраўніцтвам быў распрацаваны і выдадзены Статут 1588 года, які фактычна скасоўваў многія пастановы Люблінскай уніі і аднаўляў парушаны ёю суверэнітэт ВКЛ. Паказальна, што Люблінская унія нават не ўпаміналася ў Статуце. У прадмове да яго Л.Сапега з годнасцю адзначыў: "Не обчым (чужым. -- **М.Б.**) яким языком, а своим власным права списаные маем". Несумненна, што ён меў дачыненне і да фармулёўкі артыкула I раздзела IY Статута, які зацвярджаў статус старабеларускай ("рускай") мовы як адзінай дзяржаўнай мовы ў ВКЛ: "А писар земский маеть по руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и нозвы писати, а не иншим языком и словы". Гэты артыкул падчас канцлерства Л.Сапегі захаваўся нават у польскім выданні Статута 1614 года.

Канстытуцыйнае замацаванне дзяржаўнага статуса старабеларускай пісьмовай мовы садзейнічала высокаму ўздыму беларускай культуры ў другой палове XYI -- першай палове XYII стагоддзяў. У 1621 годзе беларускі паэт Ян Казімір Пашкевіч меў усе падставы заявіць: "Польска квітнет лацінаю, Літва квітнет русчызнаю". Аднак праз 75 гадоў (у 1696 годзе) усеагульная канфедэрацыя саслоўяў Рэчы Паспалітай прыняла пастанову аб пераводзе справаводства ў ВКЛ на польскую мову. Відаць, гэты факт меў на ўвазе П.Петрыкаў, адносячы яго да 1597 года. Але публічнае ўжыванне беларускай мовы ў грамадскім і дзяржаўным жыцці ВКЛ пастановай не забаранялася. Больш таго: ад пісараў дзяржаўных канцылярый, судовых і іншых чыноўнікаў па-ранейшаму патрабавалася веданне беларускай мовы, паколькі ім даводзілася звяртацца да дакументаў і законаў, напісаных на гэтай мове ў папярэднія стагоддзі.

Да пастановы канфедэрацыі 1696 года несумненна прычыніліся катастрафічныя для Беларусі наступствы войнаў 1648--1667 гадоў -- страшэнныя страты насельніцтва (не толькі ад баявых дзеянняў, але і ад голаду, масавых эпідэмій), гаспадаркі, культуры, разбурэнне гарадоў. Менавіта з гэтага часу пачаўся працяглы дэмаграфічны, эканамічны і культурны заняпад Беларусі і беларусы сталі этнасам з няпоўнай сацыяльнай структурай: паланізаваліся магнаты, буйная і сярэдняя шляхта, а таксама інтэлігенцыя, якая абслугоўвала іх культурныя запатрабаванні, у гарадах практычна зніклі этнічна-беларускае купецтва і праслойка заможных раменнікаў, з якіх фармавалася гарадская буржуазія. Запусцелыя гарады па прывілеях каралёў Рэчы Паспалітай засяляла яўрэйскае жыхарства. У выніку сацыяльна-саслоўны склад беларускага этнасу ў другой палове XYII--XYIII стагоддзях быў абмежаваны сялянствам, часткай мяшчан, дробнай шляхты і ніжэйшага духавенства, у першую чаргу уніяцкага. Знікла крыніца, якая раней вылучала мецэнатаў, што матэрыяльна забяспечылі беларускі Рэнесанс у XYI -- першай палове XYII стагоддзяў. Гэтым перадвызначаліся велізарныя цяжкасці беларускага адраджэння ў XIX стагоддзі.

Рэцэнзент не заўважыў, што ў многіх дзесятках артыкулаў 1--2 тамоў ЭГБ, у першую чаргу па пытаннях культуры, адзначаецца гістарычная роднаснасць беларускага і рускага народаў -- іх паходжання, моваў, адзення, арнаменту, архітэктуры, сімволікі (беларуская Пагоня і вялікарускі Георгій Пераможца) і г.д., паказаны і станоўча ацэнены ўсе значныя рускія вучоныя і навуковыя ўстановы, якія займаліся вывучэннем Беларусі і беларусаў, палкаводцы і іншыя дзеячы.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА





(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Старажытны Навагрудак -- гістарычная сталіца беларускай дзяржавы -- стаў сёлета і сталіцай урачыстасцяў пасля Полацка і Турава. Ужо напярэдадні сюды прыбыла з Нязгаснай лампадай са святым Агнём ад Гроба Гасподня ў Іерусаліме навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святынь". Адкрываючы ўрачыстасці ў Навагрудку, да жыхароў і гасцей горада звярнуўся з прывітальным словам мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

**Свята праходзіла ў Навагрудку, у вёсцы Лаўрышава, дзе быў адкрыты помнік Святому Елісею Лаўрышаўскаму, і ў гарадскім пасёлку Любча.**

**Пасля ўрачыстага адкрыцця, на якім прысутнічалі прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў, грамадскасці краіны, пачалося свята дзіцячай кнігі "Дзень ведаў". Гасцямі хлопчыкаў і дзяўчынак былі пісьменнікі, выдаўцы, журналісты, якія падзяліліся са сваімі юнымі чытачамі творчымі планамі, новымі праектамі.**

**Шматвяковая гісторыя беларускага пісьменства асвячона подзвігамі тых, хто стаяў ля яе вытокаў. На імправізаваныя тэатральныя падмосткі ў цэнтры Навагрудка да ўдзельнікаў свята "выйшлі" полацкая асветніца Ефрасіння, Кірыла Тураўскі, евангеліст Елісей Лаўрышаўскі, Францыск Скарына, Іван Фёдараў і іншыя знакамітыя гістарычныя постаці і расказалі пра "свой" уклад у гісторыю беларускай культуры.**

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, які прысутнічаў на свяце, адказваючы на пытанне карэспандэнта, чым асабіста яму дарагая гэтая ўрачыстасць, адказаў: "Для мяне гэта свята асаблівае, бо гэта свята багатай гісторыі беларускага народа. Мне прыемна, што сёлета яно праходзіць у маім родным раёне, у маёй роднай вёсцы, дзе калісьці Войшалк, сын Міндоўга, заснаваў манастыр".**



**Аптымістычным было выказванне паэта Леаніда Дранько-Майсюка, які сказаў: "З пісьменствам ніякіх праблем. На Беларусі пісалі і будуць пісаць. Наша мова не знікне. Праблема з друкам -- ці будуць друкаваць...**

**Я працую ў выдавецтве. І кожны дзень да мяне прыходзяць дзесяць юных празаікаў і дзесяць юных паэтаў. І ўсе гэтыя людзі пішуць па-беларуску. І гэта тая трава, якую не выкасіш. Выкасіш -- вырасце пасля атава. Трэба спадзявацца, што людзі, ад якіх гэта залежыць, зробяць усё, каб паміж пісьменствам і друкам была раўнавага".**

**Свята на Навагрудчыне закончылася позна вечарам вялікім гала-канцэртам майстроў мастацтваў рэспублікі. Эстафету Дня беларускага пісьменства і друку прыняў ад старажытнага Навагрудка такі ж старажытны Нясвіж.**

***Здымкі зроблены ў дзень свята на Навагрудчыне.***

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА і В. ТАЛОЧКІ.**



# БРАТЫ КАТЫРЛЫ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Сам прыехаў пагасцяваць да сваякоў у Віцебск і вось завітаў у недалёкую Оршу. Веры, што называецца, самай надзейнай і шаноўнай -- праваслаўнай. Больш таго -- у яго на радзіме сярод праваслаўных святароў сваякі.

Ад усіх абвінавачванняў рашуча адмовіўся, але доказы былі занадта відавочныя.

Усяго ў ходзе следства былі выяўлены, такім чынам, тры асобнікі крамольнай лістоўкі, як і датычнасць да іх Катырлы. Гэтага было дастаткова, каб упячы хлопца на катаргу.

Але ў нашы дні гісторык і пісьменнік М. Зайцаў (М. Віж) знайшоў у Мінскім архіве дадатковыя звесткі, што ў гэты ж дзень, калі Катырла выехаў з Оршы, са скрыні для карэспандэнцыі мясцовай паштовай канторы быў выняты непадпісаны канверт з тым самым крамольным лістком. Улётку пераслалі магілёўскаму губернатару, і ў справе аб Катырле яна не фігуравала. М. Зайцаў зрабіў абсалютна слушны вывад: Абраны рэвалюцыянерам аднолькавы спосаб распаўсюджвання пракламацый у Оршы (у запячатаным канверце дробнага фармату, без адраса), супадзенне падзей па часе -- усё гэта ўказвае на тое, што ў скрыню аршанскай паштовай канторы адозву "Зямлі і Волі"... раніцай 13 сакавіка, пакідаючы горад, апусціў В. Катырла. Праўда, даная пракламацыя да матэрыялаў следчай справы аб падпольшчыку не далучана, не фігуруе там і рапарт губернскага паштмайстра аб яе знаходцы: прамых доказаў аб дачыненні да гэтага Катырлы не было" (Неман, 1984, N 10. С. 176). Ды, відць, -- дададзім, -- магло прычыніцца яшчэ вечнае суперніцтва розных галін улады паміж сабой.

Выходзіць, у Катырлы было сама меней чатыры экземпляры лістоўкі. Але хутчэй за ўсё ён захапіў з сабой з Пецярбурга цэлы стос небяспечных для царызму лісткоў. Упэўнены, што былі і больш удалыя спробы Катырлы распаўсюджваць пракламацыю (у прыватнасці, у Віцебску), але яны асталіся невядомымі следству. Як, на жаль, і нам цяпер.

На акцыю Катырлы кідае дадатковае святло вядомая "Марыенгаўзенская справа" -- пад такой назвай у гісторыю ўвайшоў яскравы эпізод сумесных намаганняў рускіх землявольцаў і рэвалюцыянераў Беларусі, Літвы, Польшчы стварыць асяродак па падрыхтоўцы паўстання ў маёнтку Марыенгаўзен Люцынскага павета. Тут, у самай паўночнай кропцы Віцебскай губерні, найбольш набліжанай да Пецярбурга, у глухой лясістай мясцовасці, збіраліся дабравольцы, рыхтавалася зброя і вайсковы рыштунак, а землявольцы перавялі сюды сваю друкарню, дзе друкаваліся падпольныя выданні "Зямлі і Волі". Ды і беларускія рэвалюцыйныя выданні "Мужыцкая праўда", "Гутарка двух суседаў" смела хадзілі тут па руках. У канцы лютага гэты асяродак быў выкрыты ўладамі. Арыштаваны друкар падпольнай друкарні студэнт Дзмітрый Сцяпанаў, як аказалася, быў блізка знаёмы з Катырлам, нават падарыў яму сваю фатаграфію, і імя нашага віцябляніна ў сувязі з гэтым згадваецца ў матэрыялах "Марыенгаўзенскай справы". З пратакола допыту Сцяпанава ад 18 красавіка 1863 года:

"Вопрос 4. Когда, где и по какому случаю вы познакомились с дворянином Василием Котырло, какие были ваши к нему отношения, когда и где виделись с ним в последний раз, для чего передали ему свою фотографическую карточку, и какое участие в ваших действиях принимал Котырло?

Ответ. Я жил прежде с Волковым, бывшим вольнослушателем здешнего университета, который меня познакомил с Василием Котырло. Отношения наши были как добрых знакомых; часто он приходил к нам, и мы по вечерам трое с Издебским занимались химией. Я виделся с ним, а при прощании я дал ему свою карточку. Он говорил сначала, что едет на урок в Тверскую губ. Но когда я ехал с Жуковым за вещами (маюцца на ўвазе друкарскія прылады і гатовая прадукцыя друкарні. -- **Г.К.**), встретил его в вагоне, и на вопрос мой, куда он едет, он сказал -- на родину, а больше просил не расспрашивать, я, со своей стороны, просил тоже не расспрашивать, и в Острове мы расстались".

Як мы цяпер ведаем, згаданы тут выезд з Пецярбурга быў 24 лютага 1863 года: Катырла ехаў на радзіму распаўсюджваць пракламацыі, Сцяпанаў і другі землявoлец Жукаў у Марыенгаўзен -- па справах тайнай друкарні, каб перамясціць яе ў бяспечнае месца. Апошнія сышлі з цягніка ў Жогах (адразу за Вострававам) -- там было ўжо недалёка ад марыенгаўзенскіх ваколіцаў. Трэба думаць, што Сцяпанаў, нягледзячы на ўсе патрабаванні канспірацыі, ведаў пра мэты Катырлавай паездкі, але не пажадаў пра гэта гаварыць. Названы тут С.Іздэбскі таксама быў актыўным землявольцам (да гэтага яшчэ вернемся).

Назваў Сцяпанаў і Васілёвага брата Ігната, які пасля заканчэння універсітэта астаўся ў Пецярбургу, чакаў настаўніцкай пасады, працягваючы жыць усімі звыклымі інтарэсамі студэнцкай брацii. 22 мая пецярбургскі обер-паліцмайстар Аненкаў даносіў генерал-губернатару Сувораву (між іншым, унуку палкаводца) аб выніках вобыску ў асоб, якія згадваліся ў паказаннях Сцяпанава. Найперш улады цікавіліся кіруючым дзеячам "Зямлі і Волі" Мікалаем Уціным, высвятлялі яго сувязі: "Утин бывал у Степанова преимущественно по делу печатания возмутительного воззвания "Земля и Воля". Кроме того, Утин нередко посещал Степанова во время пирушек, устраиваемых для товарищей. На этих пирушках бывали, по показанию Степанова: Издебский, Судакевич, Евтушевский, Корнеев, Федоров, Красноумов, Утин, Моравский, Волков, Котырло 2-й, Краевский, Ярмолович, Сербулов..." Укладальнікі зборніка "Русско-польские революционные связи", дзе надрукаваны гэты матэрыял, дапаўняюць тэкст афіцыйнага дакумента каштоўнай заўвагай: "Большасць згаданых тут асоб або ўваходзіла ў склад Пецярбургскай землявольчацкай арганізацыі, або была з ёй звязана. Судакевіч Фёдар Сцяпанавіч узначальваў вялікі гурток ("Пецярбургская камуна"), які ўваходзіў у таварыства "Зямля і Воля", быў членам камітэта пецярбургскай арганізацыі. Членамі арганізацыі былі (апрача М.Уціна і Ст. Іздэбскага) Уладзімір Фёдараў, Ігнат Катырла, ПятроАраўскі. Студэнты Васіль Еўтушэўскі і Рыгор Сярбулаў, актыўныя ўдзельнікі студэнцкага руху 1861 года, магчыма таксама прымыкалі да "Зямлі і Волі".

У Іздэбскага пры вобыску, апрача артыкулаў з "Колокола" і іншай "бібулы", была знойдзена таямнічая запіска алоўкам, якая, несумненна, мае адносіны да "Марыенгаўзенскай справы" або акцыі В.Катырлы, прынамсі, паказвае жывую цікавасць пецярбургскіх землявольцаў да Віцебска і Віцебшчыны: "Лозунг (пароль. -- **Г.К.**) господина, отправившегося в Витебскую губ. Если там эти люди, то передайте этот лозунг в Комитет, если нет, то возвратите мне нераспечатанным". "Магчыма, што ЦК "Зямлі і Волі" даручыў яму (Іздэбскаму. -- Г.К.) вырашэнне ўсіх пытанняў, што датычылі падрыхтоўкі паўстання ў Віцебскай губерні", -- слушна мяркуюць даследчыкі (Революционная Россия и революционная Польша. М., 1967. С. 88). Следству не ўдалося пранікнуць у многія таямніцы "Зямлі і Волі", як і раскрыць усебакова яе сувязі з Віцебскам, з Беларуссю.

У Ігната Катырлы пры вобыску нічога падазронага не было знойдзена, і яго вызвалілі з падпіскаю аб нявыездзе.

Матэрыялы следства па справе В.Катырлы, як і па "Марыенгаўзенскай справе", у наш час былі апублікаваны ў вядомых дакументальных зборніках "Русско-польские революционные связи" (т. 2, 1963) і "Восстание в Литве и Белоруссии 1863--1864 гг." (1965). Ужо тады я зацікавіўся В.Катырлам як прадстаўніком беларускай інтэлігенцыі, актыўным удзельнікам перадавога вызваленчага руху свайго часу, аднадумцам і паслядоўнікам К.Каліноўскага і М.Чарнышэўскага.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**(Працяг будзе).**

# "ЗОРАЧКІ II"

*(ІМПРЭЗА ДА 90-годдзя Сяргея НОВІКА-ПЕЮНА)*

Пятнаццатага жніўня беларусы-католікі святкавалі Прачыстую -- Унебаўзяцце Панны Марыі, Успенне Багародзіцы. Наўмысна да таго не прывязваючыся, так сталася само сабою, у гэты дзень адбылася імпрэза, прысвечаная Сяргею Новіку-Пеюну, нашаму незабыўнаму паэту. 27 жніўня яму споўнілася б дзевяноста. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі з ініцыятывы Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч" другім ужо разам сабраліся людзі: тыя, хто асабіста ведаў паэта, і тыя, хто яго не ведаў, але з'яўляюцца паклоннікамі ягонага таленту, мастацкага і чалавечага; сабраліся, каб ушанаваць памяць пра яго. Даты нараджэння і смерці гэтага чалавека стаяць вельмі блізка адна адной. Нарадзіўся 27 жніўня, памёр 26-га, на заканчэнне праваслаўнага Успенскага посту. Чалавек, які меў дыплом каталіцкай навучальнай установы горада Парыжа, што давала яму права стаць святаром, ён з асаблівай пяшчотаю й трымценнем ставіўся да Найсвяцейшай Маці Божай.

Добра памятаю леташнюю вечарыну, дзе абрынуўся цэлы вадаспад успамінаў і падрабязнасцяў яго жыцця. Здавалася б, цяпер можна чакаць толькі варыяцыяў ужо пачутага. Але ж не. У атмасферы цеплыні і ўдзячнасці да паэта людзі, у асноўным маладога і зусім маладога веку, дзяліліся ўспамінамі і думкамі пра Сяргея Міхайлавіча, адкрываючы новыя абставіны і факты, нават таямніцы незвычайнага чалавека. Як летась, так і гэтым разам кідалася ў вочы, што ў зале было шмат дзяцей. Тут няма выпадковасці. Спадар Сяргей вельмі любіў дзіцячы народ. У ягонай аднапакаёўцы па вуліцы Волаха ў Мінску ад канца 70-х і амаль дзесяцігоддзе існаваў дзіцячы патрыятычны клуб "Дружба не разлі вадой". Сябрамі клуба былі суседскія дзеці і цэлыя класы бліжэйшай школы. Чым займаўся клуб? Дзеткі бавілі час у творчым сумоўі, у гутарках з гаспадаром кватэры, нават вывучалі мову эсперанта. Адкрыю яшчэ адзін "страшны" факт: клуб займаўся самавыдавецкай дзейнасцю. Саматробныя кніжачкі з дзіцячымі вершыкамі памерам у далонь, змайстраваныя рукою Сяргея Новіка-Пеюна, можна было бачыць на палічках невялікае выставы, зладжанай у зале. Ці не ўвасобіліся ў пільнасці і дбайнасці, з якімі Сяргей Міхайлавіч ставіўся да афармлення гэтых іскрынак дзіцячага таленту, ягоныя ўласныя туга і жаданне ўбачыць зборнікі сваіх вершаў? Такіх "самавыдаў" у Новіка-Пеюна назбіраліся цэлыя скрыні. Патрэба менавіта ў дзіцячым сяброўстве, мяркую, была яшчэ і з прычыны тугі па ўласных дзецях. Яны былі ў яго. Гэта адна з яго балючых таямніц. Сын памёр зусім маленькім у Слоніме. Дзве дачкі і цяпер жывуць недзе ў Піцеры ды ў Польшчы. Але кантактаў з імі ў Новіка-Пеюна не было.

Спадар Сяргей быў чалавекам надзвычай зычлівым. Сказаць, што ён быў адкрытым, можна ў тым сэнсе, што быў сумоўны і адкрыты да людзей сваёй дабрынёю. Але журбу і душэўныя раны хаваў і трымаў у сабе. Не скардзіўся, вельмі рэдка звяртаўся з просьбамі. Пабытавае ж існаванне было часам больш чым сціплым.

Шмат што было дадзена гэтаму чалавеку. Паводле паэткі Людмілы Рублеўскай, якая вяла вечарыну, ён мог бы быць класічным беларускім паэтам, мастаком, кампазітарам. У яго было мастакоўскае бачанне свету. Творчая спадчына Новіка-Пеюна яшчэ не апрацаваная і не асэнсаваная. Апроч дзівосных "Зорачак" (што ўжо ёсць класікай) народ Беларусі практычна нічога не ведае. А між іншым ім напісана больш за сто песняў і рамансаў -- наймілагучнейшых. "Словы ў паэта, як фарбы ў мастака", -- казаў ён.

Дарэчы, дзе былі створаны тыя "Зорачкі"? У ваколіцы Гданьска, на



выгнанні. А чаму ён туды трапіў? А таму, што збіраў подпісы сваіх землякоў за беларускую школу.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

# ТУМАН ДЫЛЕТАНЦТВА І ТЭНДЭНЦЫЙНАСЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Шмат месца адведзена асвятленню сумеснай рэвалюцыйнай барацьбы прадстаўнікоў рускага, беларускага і іншых народаў у агульнарасійскіх партыях і арганізацыях, што дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, асабліва РСДРП. І тым не менш П. Петрыкаў заявіў: "У кнігах (ЭГБ. -- **М.Б.**) настойліва і паслядоўна праведзена думка аб тым, што рускія, рускі народ -- не браты беларусам і беларускаму народу, што Расія -- адвечны вораг Беларусі".

У рэцэнзіі зроблена заяўка на шэраг гістарыяграфічных "адкрыццяў". **"Адкрыццё" 1-е.** Прафесар Петрыкаў рашуча і катэгарычна адхіляе агульнапрыняты тэзіс аб тым, што царызм пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі праводзіў у беларускіх губернях палітыку русіфікацыі. "Тэзіс "русіфікацыі" Беларусі пасля яе ўз'яднання з Расіяй у канцы XVIII ст., -- заяўляе ён,-- стаў метадалагічнай асновай прац пануючай цяпер у гістарычнай навуцы бэнээфаўскай плыні гісторыкаў... Яна (гэтая метадалогія. -- **М.Б.**) з'яўляецца найбольш антынавуковай "тэарэтычнай" асновай фальсіфікацыі гісторыі Беларусі... вельмі небяспечнай мінай для падрыву добрасуседскіх адносін паміж беларускім і рускім народамі, паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй". П. Петрыкаў лічыць, што "трэба выказаць падзяку Расіі за тое, што яна зберагла нас як этнас", "што без Расіі не было б і сённяшняй рэспублікі Беларусь, а былі б толькі "ўсходнія крэсы" Польшчы".

Як аргументуецца "адкрыццё"? Галоўны доказ П. Петрыкава: "...Не паспела, як кажуць, частка усходнебеларускіх зямель далучыцца (самі далучыліся?! -- **М.Б.**) у 1772 годзе да Расіі, як было створана Беларускае генерал-губернатарства. Беларускае! Упершыню ў гісторыі загаварылі аб беларусах на самым высокім дзяржаўным ўзроўні". Рэцэнзент пры гэтым не адзначыў агульнавядомы факт: ні Кацярына II, ні ўсе яе пераемнікі да Мікалая II уключна не прызнавалі існавання самастойнага беларускага этнасу. У маніфесце Кацярыны II ад 13 красавіка 1793 года да жыхароў зямель, далучаных да Расіі ў выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай, гаварылася: "Прыносячы цёплыя ўдзячныя маленні ўсемагутнаму Госпаду Богу **за вяртанне іх у недры Бацькаўшчыны**, хай накіруюць і яны ўсю сваю стараннасць і ўсе сілы свае на няўхільнае падпарадкаванне законам і волі нашай і, злучыўшыся сэрцам і духам сваім з вернымі нам і любымі расійскімі сынамі, **хай складуць, як некалі, адзіны з імі народ"** (падкрэслена мною. -- **М.Б.**). Няўжо П. Петрыкаў будзе адмаўляць, што Кацярына II падкрэсленымі словамі сфармулявала палітыку русіфікацыі беларусаў і ўкраінцаў з правабярэжных губерняў?

У гады царавання Паўла І і Аляксандра І былі пэўныя адступленні ад яе, але Мікалай І у сувязі з паўстаннем 1830--1831 гадоў рашуча аднавіў і ўзмацніў русіфікатарскую палітыку і нават забараніў выкарыстоўваць тэрміны Беларусь і Літва ў афіцыйным справаводстве, загадаўшы называць 6 беларуска-літоўскіх губерняў "Северо-Западным краем". Рэцэнзент, дарэчы, абмінае гэты факт. У ходзе падаўлення паўстання 1863--1864 гадоў і пазней у "Паўночна-Заходнім краі" быў устаноўлены рэжым выключных законаў, мэтай якіх з'яўлялася татальная русіфікацыя мясцовага насельніцтва. Без істотных зменаў ён дзейнічаў да рэвалюцыі 1905--1907 гадоў, а ў многіх адносінах захаваўся да канца існавання царызму. Так, па ініцыятыве П. Сталыпіна ў момант трэцечэрвеньскага дзяржаўнага перавароту (1907 год) Мікалай II зацвердзіў новы выбарчы закон у Дзяржаўную думу, паводле якога ў беларускіх губернях уводзіліся нацыянальныя курыі -- "руская", "польская" і "яўрэйская". Пры гэтым праваслаўных беларусаў афіцыйна запісвалі ў "рускую" курыю, а католікаў -- у "польскую". Чарнасоценна-акцябрысцкая III Дзяржаўная дума прыняла закон, які дазваляў навучанне на роднай мове ў пачатковай школе для ўсіх народаў Расіі, за выключэннем беларусаў і ўкраінцаў, паколькі ўлады лічылі іх "рускімі". Пра што сведчаць гэтыя і іншыя факты, шаноўны рэцэнзент? Няўжо Вы іх не ведаеце?

**"Адкрыцці" 2-е і 3-е.** П. Петрыкаў з пафасам сцвярджае, што ў канцы XVIII стагоддзя "этнанацыянальная беларуская ідэя, ідэя беларускасці ў беларускім асяроддзі адсутнічала", і ў сувязі з гэтым фармулюе тэзіс, што ля вытокаў беларускага адраджэння стаялі "дзесяткі рускіх вучоных", якія "першымі пачалі... будзіць думку мясцовай інтэлігенцыі аб самабытнасці беларускай культуры і мовы". Чытач мае права запытаць у рэцэнзента: 1. Хто, дзе, калі сцвярджаў, што беларуская ідэя існавала ў канцы XVIII стагоддзя? 2. Чаму не названы ні адзін з дзесяткаў рускіх вучоных, дзякуючы якім беларусы ўсвядомілі, што яны ёсць асобны народ? З пасажаў П. Петрыкава відавочна адно: рэцэнзент не ведае (ці ігнаруе) гістарычную, этналагічную і лінгвістычную літаратуру (у тым ліку артыкулы, змешчаныя ў 1--2 тамах ЭГБ), у якой раскрыты асноўныя этапы зараджэння, станаўлення і развіцця беларускай ідэі.

Адзначым, што зараджалася яна ў першай палове XIX стагоддзя ў асяроддзі менавіта беларускай па паходжанні інтэлігенцыі, якая атрымала адукацыю ў польскай ці расійскай культуры (З. Даленга-Хадакоўскі, М. Баброўскі, І. Даніловіч, І. Ярашэвіч, І. Анацэвіч, Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, І. Грыгаровіч, П. Шпілеўскі, П. Баброўскі і інш.) і праз вывучэнне гісторыі і культуры ВКЛ з дзяржаўных, беларуска-літоўскіх пазіцый, этнагенезу славянскіх народаў, фальклору, мовы, побыту, традыцый і звычаяў беларусаў прыйшла да высновы аб існаванні самастойнага беларускага (славяна-крывіцкага, літоўска-рускага) этнасу. Некаторыя з пачынальнікаў, адораныя пісьменніцкім талентам, і самі пачалі пісаць па-беларуску (Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі, аўтары ананімных паэмаў "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе"), ствараць новую беларускую літаратурную мову на аснове жывой шматдыялектнай мовы народа.

Так зараджаўся беларускі нацыянальна-культурны рух, а разам з ім пачала фарміравацца нацыянальная інтэлігенцыя. У пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя К. Каліноўскі зрабіў наступны крок у развіцці беларускай ідэі: выставіў праграмнае патрабаванне аб утварэнні самастойнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы і дамагаўся яго рэалізацыі ў ходзе паўстання 1863 года. Тэарэтычнае абгрунтаванне факта існавання самастойнага беларускага этнасу і яго права на самавызначэнне свайго лёсу аж да ўтварэння дзяржавы ўпершыню распрацавалі і сфармулявалі студэнты-беларусы, народнікі і народавольцы ў пачатку 80-х гадоў XIX стагоддзя ("Гомон" і іншыя выданні), абапіраючыся пры гэтым на этнаграфічныя і мовазнаўчыя даследаванні вучоных-беларусістаў, у тым ліку і рускіх.

Першыя прадстаўнікі беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі выйшлі, як гэта ні дзіўна для П. Петрыкава, менавіта з Віленскага універсітэта і Полацкай акадэміі. Да выдання "Буквара" і падручнікаў на беларускай мове ў гэтых навучальных установах справа, як піша рэцэнзент, сапраўды не дайшла. Думаю, што прычына -- у дачасным закрыцці царскім урадам і адной, і другой вышэйшай навучальнай установы (акадэміі ў Полацку -- у 1812 годзе, універсітэта ў Вільні -- у 1832-м). Так ці інакш, але менавіта выхаванец Віленскага універсітэта філамат Ян Чачот, адбыўшы 10-гадовую ссылку ў Расіі, у прадмове да аднаго з томікаў "Вясковых песень" паклаў пачатак распрацоўцы граматыкі беларускай (славяна-крывіцкай) мовы. П. Шпілеўскі ў 50-я гады склаў і прадставіў у Расійскую акадэмію навук беларускую граматыку, аднак акадэмікі адхілілі яе, спаслаўшыся на тое, што "дыялекты не могуць мець уласных граматычных катэгорый".

**"Адкрыццё" 4-е.** Не зважаючы на прыведзеныя факты, зафіксаваныя нават у школьным падручніку, П. Петрыкаў абвінавачвае саміх беларусаў у тым, што яны ў XIX стагоддзі не мелі падручнікаў на беларускай мове, а таксама падрыхтаваных настаўнікаў для яе выкладання, і адкрыта апраўдвае палітыку царызму ў Беларусі. Так і піша: "Самі беларусы вінаваты ў гэтым. Самім трэба прызнаць такую рэчаіснасць свайго жыцця (?), а не шукаць апраўданне этнакультурнай згубы (?!) к канцу XVIII стагоддзя ў "русіфікацыі". Чаму "к канцу XVIII стагоддзя"? У страце сваёй этнічнай эліты беларусамі, якая адбылася задоўга да ўключэння Беларусі ў склад Расійскай імперыі, ніхто з беларускіх даследчыкаў не абвінавачваў царызм. Патрабаванне нацыянальнай школы беларусамі ў той час ды і значна пазней яшчэ не выстаўлялася. Упершыню грамадскасць Беларусі выказвалася за мэтазгоднасць навучання ў пачатковай школе на роднай мове вучняў у канцы 50-х -- пачатку 60-х гадоў. Што адказаў на гэта тагачасны -- далёка не самы рэакцыйны -- папячыцель Віленскай вучэбнай акругі князь Шырынскі-Шыхматаў? У запісцы на імя міністра народнай асветы (1861 год) ён вызначыў сваю пазіцыю так: "...В губерниях же Виленской, Гродненской и Минской большая часть сельского населения говорит наречием белорусским; поэтому и народные училища в этих местностях должны быть чисто русскими". Логіка, як бачым, "жалезная". Такім жа чынам у пачатку XX стагоддзя "закрыла" пытанне аб беларускай пачатковай школе III Дзяржаўная дума. Растлумачце, шаноўны прафесар, як можна было ў азначаных умовах рыхтаваць беларускамоўных выкладчыкаў для школ у Беларусі, калі ўлады на імперскім узроўні адмаўлялі сам факт існавання беларускай мовы і не дапускалі яе нават у пачатковую школу?

**"Адкрыццё" 5-е.** У поўнай супярэчнасці з "адкрыццём" 1-м П. Петрыкаў на апошняй старонцы сваёй рэцэнзіі нечакана для чытача канстатуе... наяўнасць русіфікацыі беларусаў у XIX -- пачатку XX стагоддзяў. "Яна, -- піша рэцэнзент, -- "адступала" пад уплывам дзейнасці Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Усевалада Ігнатоўскага, іншых знакамітых сыноў беларускага народа...". На якія пазіцыі адступіла, застаецца, праўда, невядомым. А далей, па Петрыкаву, у русіфікацыі, аказваецца, былі два бакі: "Станоўчы, калі Расія і СССР выводзілі беларусаў з "цемры" на свет. І адмоўны, калі з боку асобных чыноўнікаў (толькі?! -- **М.Б.**) і "некультурных" грамадзян былі і ёсць непрызнанне беларускай мовы як роўнай сярод іншых моў, зняважлівыя да яе адносіны і г. д.".

Вось такі ўзровень навукі і мыслення ў прафесійнага гісторыка, члена-карэспандэнта АН Беларусі, які шмат гадоў быў дырэктарам акадэмічнага Інстытута гісторыі, а нядаўна прызначаны першым намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва Беларуская Энцыклапедыя. Да таго ж з мінулага года П. Петрыкаў -- член Дзяржаўнай камісіі пры Кабінеце Міністраў па падручніках для школы. І на той і на другой пасадзе ён актыўна і цвёрда рэалізуе свае погляды на гісторыю Беларусі, выкладзеныя ў рэцэнзіі "Туман "русафобіі" ахутаў Беларускую энцыклапедыю".

Асаблівыя адносіны праяўляе П. Петрыкаў у сваіх публікацыях апошніх гадоў да роднага інстытута. Выказаў ён іх у рэцэнзуемай, калі можна так сказаць, рэцэнзіі: "На жаль, -- піша ён у заключным абзацы, -- у наш час пад яго (інстытута. -- **М.Б.**) уплывам ажыццяўляецца татальная фальсіфікацыя не толькі ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", а і ў новых падручніках для вучняў школ, "Нарысах гісторыі Беларусі" (у 2-х частках) для студэнтаў і выкладчыкаў, многіх манаграфіях, брашурах і артыкулах. Такая дзейнасць Інстытута гісторыі АНБ як дзяржаўнай установы супярэчыць гістарычнай праўдзе, карэнным інтарэсам беларускага народа, палітыкі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якая грунтуецца ў адносінах да Расіі на выніках усенароднага рэферэндуму, праведзенага ў маі 1995 года". Чым "пахне" гэтае заключэнне, якой кваліфікацыі заслугоўвае, хай вырашае чытач. Як і тое, хто на справе з'яўляецца фальсіфікатарам айчыннай гісторыі.

**Міхась БІЧ,**
**доктар гістарычных навук.**

## АНАТОЛЮ АСТРЭЙКУ СПОЎНІЛАСЯ Б 90

# БЯРОЗА КАЛЯ ТРОХ ДАРОГ...



Недзе на Случчыне, на скрыжаванні трох дарог, сярод жытнёвых палёў ды зялёнай дубровы, стаіць яна -- бяроза Анатоля Астрэйкі. Не, яе магло б і не быць, ён жа быў ахвочы да выдумкі, і той настрой яго верша ("Каханая, мне скора трыццаць, а што ў жыцці зрабіць я змог? Мне па начах так часта сніцца Бяроза каля трох дарог...") мо' толькі паэтычная азнака, арыенцір у лірычным роздуме. Ды вось я, здаецца, і сёння бачу яе -- у ізумрудна-зялёнай лістоце -- беласнежнай зграбнай постаці; здаецца, і чую пошум-шолах-шапаценне ў галлі пад павевам ветру; здаецца, вабіць мяне цяністы прыцемак ля яе... Астрэйкава бяроза...

Але сам паэт па прыродзе быў надта лірычны ў сваім захапленні казачна-райскай красою, у сваім пакланенні, я сказаў бы нават -- абагаўленні роднага краю. Уздзенскіх лясоў, з якіх выбягае крынічна-чысты Неманец, каб на пясоцкіх лугах сустрэцца з Вусой і Лошай і пераліцца ў песенны Нёман. Ага, я толькі вывеў на паперы слова "Нёман" у злучэнні з імем Анатоля, -- і ўвушшу ажывае: "Ой, Нёман, ой, Бацька мой Нёман..."

Пявучы быў паэт, хто ж тое не ведае! Не аднаму пакаленню беларусаў пра многае напамінае нат пералік цудоўных песень на ягоныя вершы: "Песня пра Заслонава" У. Алоўнікава, "Шоўкавыя травы", "Хай бы прыснілася..." і "Распусцілася каліна" Р. Пукста, "Заздраўная" Л. Абеліёвіча, "Карагодная" і "Васількі" Д. Лукаса, "Чорныя косы" І. Любана, "Свеціць месяц" і "Твае мне мроіліся вочы" Ю. Семянякі, "Партызанская" і "Шэпчуцца стайкі бяроз" М. Чуркіна... Гадамі рэспубліканскае радыё ці не кожную раніцу пачынала з песень, рамансаў або хораў, створаных кампазітарамі ў садружнасці з ім, з Астрэйкам. І ў поступе лепшых ягоных радкоў ёсць яна, адчуваецца, трымціць і ўлоўліваецца -- музыка, мелодыя...

Калі я прыгадваю або сустракаю Астрэйкавы вершы, гартаючы яго кніжкі, дык часам і падпяваю. Зачараваны хараством жывой прыроды, ён і цяпер, у наш даволі цвярозы і практычны час, абуджае ў мяне лірычны настрой, бывае, сентыментальны. І магу з замілаваннем паўтараць: "Чытаў я вершы дальнім зорам... Бярозе ціхай ля акна... Старому казачнаму бору... І месяцу над хатай..." І нібы гэта з майго сэрца праменіць ціхае зачараванне, бо на тыя вершы адгукаліся...

**Бярозы слёзы выціралі,**
**Смяяўся месяц пад вакном,**
**Буслы над хатай клекаталі,**
**Салютам адгукаўся гром.**
**І я змаўкаў ад захаплення!**
**Якія вершы там мае,**
**Калі ў часы свайго квітнення**
**Зямля так хораша пяе...**

Тут і самаіронія (якія і каму яны патрэбны, мае вершы!), і неўтаймаванае жаданне праспяваць песню зорам... бору... месяцу... бярозе... Часамі паэта агортвае сум, апаноўвае незадаволенасць самім сабой, недасканаласцю чалавека наогул. "Я не цярплю ніякі плач, Заўсёды вас баюся, слёзы, Бягу ад вас, нібыта драч, Да Нёмана у вербалозы".

Сведчу, што ў прыватным жыцці і ў мітусні дзён Анатоль Астрэйка ўсім сваім аблічам быў такім, якім павінен быць паэт. Зграбны, высокі, пышнавалосы -- кудлы такія, як кужаль, мяккія. Васільковаблакітныя вочы па-маладому ветлівыя, з нейкім засмучоным прыжмурам. Мерная хада ўпэўненая і трохі запавоненая. Вабіла ягоная ўсмешка -- добрая, па-прасцецку зычлівая і недзе ля вуснаў нечакана сарамлівая. Такая ўсмешка надзвычай падабаецца жанчынам. Я назваў бы яе ўсмешкай далікатна-ласкавага чалавека-мастака.

І была ў Анатоля яшчэ адна іпастась. Ён быў па-грамадзянску гатовым да аператыўнага водгуку на грамадска значныя падзеі. Таму ў вершах апяваў калектывізацыю вёскі, спадзеючыся, што калгасная праца прынясе краіне вялікі плён. Таму пісаў агіткі -- і хвацка зарыфмаваныя перадавыя газетныя артыкулы, і лістоўкі з вершамі-заклікамі, і ўрачыстыя здравіцы ў гонар партыйна-дзяржаўных правадыроў. Здаралася, у самы звышафіцыйны тэкст устаўляў (дзеля мастацкай дэталізацыі!) назвы родных мясцін. Помніце, у Максіма Багдановіча ў слыннай "Эміграцкай песні" бадзягі-шукальнікі шчасця прызнаюцца, што ім і ў заакіянскіх нібыта райскіх садах мроіцца-маячыцца родная вёсачка, Нёман і агні партовыя Лібавы. Дык вось Астрэйку той Нёман, славутыя вёскі Замосце, Нізок, Пясочнае, Станькава, Прусінава, Чурылава, мястэчкі Цімкавічы і Магільнае, горад Капыль -- сэрцу мілы край.

Не, ён не хлусіў, калі ягонае пяро выводзіла на паперы радкі накшталт такіх: "І часта ў змрок глухіх начэй, Калі падмогі не чакалі, Святло жывых тваіх вачэй Нас акрыляла -- Бацька Сталін..." Я маладзейшы за Астрэйку, але і маё пакаленне, можа, нават у большай ступені было прасякнута верай у веліч таго ж Сталіна. Нас па-сапраўднаму захаплялі міжкантынентальныя палёты Чкалава і Громава, подзвігі пагранічнікаў, заваёўнікі Паўночнага полюса -- папанінцы, адважныя сакрэтныя аперацыі чэкістаў, якія выкрывалі шпіёнаў і ворагаў народа, вялікія новабудоўлі, росквіт нацыянальных культур, асабліва розныя фестывалі і агляды, алімпіяды і дэкады мастацтва. Мы неяк і не заўважылі, як прызвычаіліся жыць ва ўмовах, калі ўсё вырашалася замест нас і без нашага ўдзелу.

Ды ці толькі вера дыктавала Астрэйку (і не яму аднаму) дзяжурную рыторыку? Ці толькі тым, што мы прызвычаіліся пакорліва выконваць ідэалагічныя заказы, тлумачацца схематычныя оды, складзеныя гэтым паэтам? Можа, былі і іншыя прычыны?

Шчыра кажучы, такія пытанні ў мяне і людзей майго пакалення выразна абазначыліся пасля вядомага XX з'езда кампартыі і сенсацыйнай прамовы на ім М. Хрушчова, дзе быў выкрыты так званы культ асобы Сталіна і яго наступствы. Падзеі ж апошняга дзесяцігоддзя нашага веку наогул прымушаюць нас, тых, каму выпала пры жыцці даведацца пра многія раней невядомыя і знарок утоеныя ад народа факты ў грамадскім развіцці краіны, што звалася СССР, у прыватнасці, мяне і маіх калег, абдумаць і глыбей асэнсаваць супярэчнасці і ў мастацкай творчасці такіх паэтаў, як Анатоль Астрэйка. І прыгадваюцца некаторыя нашы гутаркі, спрэчкі, здагадкі, наша ці не свядомае змоўчанне былых гадоў.

...Яшчэ ў канцы дваццатых гадоў, пачаўшы пісаць вершы, юнаком Астрэйка адчуў на ўласнай шкуры, што такое ідэалагічная аглобля. На пачатку творчага шляху ён падхопліваў і пераймаў асобныя матывы лірыкі ўзорных для яго паэтаў -- Сяргея Ясеніна, Паўлюка Труса, Міхася Багуна. Падпісваў вершы псеўданімам "Якім Зорны". Вось і дала ж аднойчы гэтаму "Зорнаму" адлуп тагачасная "Чырвоная змена", апублікаваўшы фельетонны артыкул з гучнай назвай "Супраць астрэйкаўшчыны". Небараку Анатоля газета вінавconfigurations ціла як апалагета ("З тае пары я баюся гэтага слоўца, як слова "здраднік", "двурушнік", "ідэалагічны дыверсант": а-па-ла-гет" -- прызнаваўся Толя), як песняра суму і ўпадніцтва, распусты і багемы.

-- Пужаны Астрэйка і бур'яна баіцца, -- сказаў ён мне пасля першай маёй літаратурнай рэцэнзіі на ягоны зборнік "Добры дзень".

Мы сядзелі за бяседным сталом у яго кватэры пад самым дахам дома N 43 на цяперашнім праспекце Ф. Скарыны, як часцяком здаралася, разам з Антонам Бялевічам.

-- А чаму "і"?.. І Бур'яна? -- спытаўся я.

За Толю адказаў Антон, сказаўшы, што пужаны літаратар на Беларусі баіцца і Цанавы, і Гарбунова (быў такі сакратар ЦК), і Лукаша Бэнды, і Алеся Кучара, і Міхася Клімковіча, і Івана Гутарава, і Якуба Герцовіча... Ах, які ён быў доўгі -- той пералік службовых асоб і літаратурных крытыкаў, якія знаходзілі розныя ідэйныя адхіленні ў самых натуральных лірычных чалавечых споведзях.

Дарэчы, у запісах Янкі Брыля сустракаю такое сведчанне: "Калісьці на абмеркаванні творчасці Крапівы яму зрабілі заўвагу, што мала піша.

-- А што ты зробіш, калі як толькі сядзеш за стол, дык не вобразы перад вачыма ўстаюць, а Бэнда"..."

Прызнанне пачатку трыццатых гадоў! Страх -- дрэнны дарадчык пісьменніку, але пазбавіцца яго было ў гады арыштаў, паказальных судовых працэсаў, выкрыцця ідэалагічных здраднікаў і "ачарніцеляў" савецкай рэчаіснасці, у гады лагерных адысей і проста знікнення такіх фігур, як Цішка Гартны або Максім Гарэцкі, цяжка, калі не сказаць -- немагчыма.

Інакш думаць ніхто тады сабе і не дазваляў.

Кампанейскі чалавек, Астрэйка жыва і натуральна размаўляў з людзьмі. Бурклівая і часам быццам чамусьці вінаватая інтанацыя міла афарбоўвала яго мову. Родам са Слуцкага, як ён казаў, гнязда, зямляк К. Крапівы і П. Труса, К. Чорнага і А. Бялевіча, А. Пальчэўскага і П. Глебкі, А. Русака і А. Якімовіча, -- як маляўніча расквечваў песачанскі тубылец сваю гаворку! Трапным слаўцом, дарэчнай прыказкай, дасціпнай прымаўкай.

Неўпрыкмет і ненадакучліва Анатоль вучыў мяне думаць і размаўляць па-беларуску, смакаваць літаратурнае і сцэнічнае хараство беларускага гучання, з асалодай паглыбляцца ў каларытную плынь ягонай роднай мовы. З яго вуснаў я чуў, напрыклад, як наша дзяжурнае "прататып" набывае свежасць у "першаўзоры", як лацінскага паходжання "абарыген" робіцца натуральным "тутэйшым", а "рэнегат" -- гэта звычайны "пярэкрут".

Па тагачаснай завядзёнцы лепшыя кінафільмы, асабліва адзначаныя Сталінскай прэміяй, агучваліся на нацыянальныя мовы ва ўсіх рэспубліках. Астрэйка перакладаў на беларускую мову дыялогі і маналогі кіношных герояў для "Беларусьфільма". І каб яшчэ больш заахвоціць мяне вывучэннем "абарыгеннай манерай размаўляць", давяраў часам мне перакладаць старонку або дзве з мантажных запісаў "Падзенне Берліна" або "Пасеялі дзяўчаты лён". Здаралася, гадзінамі гарбеў я над пішучай машынкай, шукаючы эквівалентнае слова, каб па колькасці галосных у ім было столькі ж, колькі ў арыгінале. Бо вымаўленне дублёра павінна супадаць з рухам губ экраннага персанажа. Колькі радасці было, калі я ўпершыню без слоўніка выраз "тютелька в тютельку" адразу пераклаў "як дзве кроплі вады". Трыумф!

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## МАЙСТРЫ МАСТАЦТВА

**У выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску ў гэтым годзе прайшла персанальная выстава работ аднаго з старэйшых мастакоў горада Анатоля Ільінова.**

**Асноўнае месца ў творчасці мастака займае лірычны пейзаж. З вялікай любоўю і шчырасцю паказвае ён някідкія куткі роднай беларускай прыроды.**

**А.Ільіноў -- удзельнік многіх абласных, рэспубліканскіх і міжнародных выстаў. Яго работы знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях як у нас у рэспубліцы, так і далёка за яе межамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Анатоль ІЛЬІНОЎ; графічная работа А. Ільінова "Стары Віцебск".**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**





# САПРАЎДНЫ БЕЛАРУС І САПРАЎДНЫ ПАЭТ



У канцы жніўня выдатнаму беларускаму паэту Генадзю БУРАЎКІНУ споўнілася 60 гадоў. Многа шчырых цёплых слоў сказалі яму ў гэты дзень сябры, калегі, чытачы, саслужыўцы.

На старонках "Голасу Радзімы" не раз друкаваліся інтэрв'ю з паэтам і яго цудоўныя вершы. Мы жадаем Генадзю Бураўкіну добрага здароўя і творчага плёну.

"Бураўкін -- сапраўдны беларус і сапраўдны паэт, -- сказаў пра свайго сябра лётчык-касманаўт Уладзімір Кавалёнак. -- Я ў роспачы, калі чытаю апошнія вершы Генадзя Бураўкіна: у іх трывога і боль за свой край, за тое, што адбываецца з яго сучаснікамі. Ён закрануў балючы нерв, глыбока адчуў трагедыю свайго народа, які нават сваёй мовы цураецца, бяжыць з наседжаных месцаў у далёкія краі, шукаючы там шчасця і долі".

**НА ЗДЫМКУ: Іван МЕЛЕЖ і Генадзь БУРАЎКІН (справа). Здымак з архіва "Голасу Радзімы".**

**Генадзь БУРАЎКІН**

## МАЛІТВА

**Мы здалёку ўбачылі свабоду**
**І яшчэ не вырваліся з пут...**
**Божа,**
**Не дабаў майму народу**
**Пошасці,**
**Няпраўды**
**І пакут.**

**У чужым нялюдскім**
**землятрусе**
**Хіба ў нечым мелі мы віну?!..**

**Божа,**
**Адвядзі ад Беларусі**
**Здраду,**
**Вераломства**
**І вайну.**

**Смутнаю парою нелюдзімай,**
**Калі ўсё наўкол ідзе на злом,**
**Божа,**
**Захіні маю Радзіму**
**Мудрасцю,**
**Спакоем**
**І цяплом!**

# "ЗОРАЧКІ II"

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

Драўляны будынак яе ён пабудаваў разам з братам; яны і навакольны люд хацелі, каб школа гэтая была беларускаю. Яго арыштавалі і выслалі з крэсаў усходніх у землі паўночныя, каб набраўся пальшчызны. Гэта 30-я гады. Цяпер іншы час, няма быццам крэсаў. Але ёсць праблема беларускае школы, мо' нават і большая, чым была тады.

Рэчы, што засталіся ў кватэры Новіка-Пеюна, набылі статус мемарыяльных і перадаюцца ў музей гісторыі беларускай літаратуры, што ў Траецкім прадмесці ў Мінску. Сярод гэтых рэчаў -- "Пагоня", вышытая рукою сястры паэта, Кацярыны, у 1938 годзе. Дзіўна, што гэты скарб захаваўся да нашага часу. Па нейкіх прычынах (можа сапраўды важных) супрацоўнікі музея не дазволілі дэманстраваць гэтую рэліквію на вечарыне. Але шкада!

Сяргей Міхайлавіч меў яшчэ адзін дар -- лекавання словам. Ён ведаў безліч замоваў. Літаратар Уладзімір Пецюкевіч, былы сябра дзіцячага клуба, успамінаў, як спадар Сяргей дапамог яму паправіць звернутае плячо. А прамаўляў ён словы такія: "Ішоў Хрыстос праз залаты масток па храсточках. Храсточкі ўвагнуліся, хвароба ўлякнулася". І сапраўды, плячо хутка стала на месца.

Адзін нечаканы, спантанны эпізод вечарыны стрэмкаю сядзіць у душы, прымушае разважаць і сумнявацца. Паэт пахаваны ў сябе на радзіме, на могілках вёскі Лявонавічы пад Нясвіжам. Помнік яшчэ не ўсталяваны. Апошнія месяцы перад адыходам з жыцця зямнога самотным паэтам найбольш апекаваліся сябры брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў. Спадарыня Вольга Зубовіч, якая міласэрна і самаахвярна ўзяла на сябе найбольшы клопат дагляду нямоглага чалавека, якая сябравала з ім са сваіх школьных гадоў і якой, мяркую, Сяргей Міхайлавіч даверыў сваю спадчыну, сказала, што на магіле будзе ўсталяваны праваслаўны крыж. Такое паведамленне выклікала недаўменне часткі прысутных у зале. Не тое што пратэст, але пэўную нязгоду. Канешне, праваслаўнае брацтва ўзяло чынны ўдзел у доглядзе паэта -- чалавека, які быў у патрэбе. Сабораваў і прычашчаў яго праваслаўны святар. "Сяргей Міхайлавіч быў бы не супраць такога рашэння", -- сказала спадарыня Вольга. І ўсё ж... Глыбокі і шчыры вернік Сяргей Новік-Пяюн паходзіў з традыцыйна каталіцкай сям'і, вучыўся ў каталіцкай навучальнай установе. Безумоўна, глыбокая вера не рабіла яго канфесійным фанатыкам. Па сведчанні Зміцера Марчука, знаўца песеннай спадчыны паэта, з якім спадар Зміцер быў у блізкіх і даверлівых стасунках, Новік-Пяюн вельмі спачуваў грэка-католікам. Сам Зміцер не хаваў свайго пратэстанцтва. Гэта Беларусь, краіна сумоўяў, гэта нашыя рэаліі. "Быў бы не супраць..." Тут усё ж прысутнічае няпэўнасць. Ізноў жа, дазволю меркаваць, такога чалавека на парозе вечнасці не магло не хваляваць, як станецца потым.

Адно маю сказаць. Як на маю думку, адназначнае рашэнне -- праваслаўны крыж на магіле Сяргея Новіка-Пеюна -- не паспрыяе ладу ў беларускім нацыянальна свядомым грамадстве. Гэта адлюстравала рэакцыя залы ў часе імпрэзы. Магчымае наступства -- такая акалічнасць не дасць супакою душы паэта. Справа вельмі далікатная і патрабуе надзвычайнага такту. Манаполія і эгаізм, з якога б боку яны ні зыходзілі, тут не да месца.

Я шчыра перапрашаю ўсіх, каго міжвольна мог пакрыўдзіць сваімі развагамі.

Паэтка Валянціна Аксак звярнула ўвагу на тое, што на гэты год прыпадае некалькі датаў жыцця і творчасці Новіка-Пеюна: 90-годдзе з дня нараджэння, 75 год ад пачатку літаратурнай творчасці (1921 год), 70 год з дня з'яўлення ў віленскай газеце першага друкаванага верша (1926 год). Шмат было ўспамінаў, шмат было выступоўцаў. Гучалі вершы і песні Сяргея Новіка-Пеюна. Маю думку: пакуль жывыя ўспаміны, пакуль ёсць людзі, якім ёсць што сказаць пра паэта, можа варта парупіцца ды сабраць тыя ўспаміны разам і, дасць Бог, выдаць іх?

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

# ЛІТАРАТУРНАЯ ПАЛІТРА

**Працяг. Пачатак у NN 35—36.**

Але сапраўдная творчасць пачынаецца тады, калі ён прамінае свой "нулявы момант", калі майстэрства ягонае не падлягае сумненню, бо ён ужо ўмее ім карыстацца -- ужо зрабіўся Майстрам найвышэйшай кваліфікацыі, -- бо Талент -- гэта адно, а Майстэрства -- другое. І адно без другога існаваць не можа: калі ёсць талент, але няма майстэрства, то няма і Творцы. Гэтаксама наадварот: калі ёсць майстэрства, але няма таленту, то верагоднасць нашага захаплення такім "творцам" будзе адпавядаць нулю.

Прамінуўшы "нулявую адзнаку", ці "нулявы момант", творца свядома ставіць сабе мэты, свядома скарыстоўвае свае здольнасці, бо ён ужо ведае, якое пачуццё выклічуць тыя ці іншыя ягоныя словы, хаця цалкам пазбавіцца сваёй "слепаты" (сляпога карыстання здольнасцямі), напэўна, не здолее ніколі, бо гэта ад яго не залежыць: моманты "слепаты" застануцца і надалей, толькі яны будуць іншага -- вышэйшага -- кшталту. Вышэйшага па ўзроўню майстэрства. І, магчыма, будуць амаль незаўважнымі для чытача. Але надыдзе час, калі і пісьменнік, ды і чытач таксама заўважаць гэтыя моманты, аднак безвыходнасці, як раней, адчуваць не будуць, бо ў ёй -- у гэтай вышэйшай безвыходнасці -- ужо схаваны -- запраграмаваны! -- крок наперад: адтуль, з самага нізу -- і вышэй: да поўнага спасціжэння ісціны, хаця практычна гэткае немагчыма: ісціна, як мы штодзень пераконваемся, дасягальная толькі ўмоўна.

Але аўтар, ведаючы самога сябе і спазнаўшы таямніцы майстэрства, ужо ніколі не напіша так, каб чытача апаноўвала безнадзейнасць (бо безнадзейнасць -- не самы лепшы сродак уздзеяння на чалавечую душу), -- ён пакіне яму маленькую шчылінку надзеі -- якраз гэткую, каб застацца верным праўдзе жыцця і каб адначасова сказаць чытачу, што гэта сітуацыя -- не канец шляху, а толькі пачатак. Ісці можна і далей. А як... У тым, мне здаецца, і ёсць найвялікшы талент пісьменніка -- дамагчыся таго, каб чытач сам зведаў, здагадаўся, куды і як можна ісці. І ён, безумоўна, пойдзе! А пісьменніку застаецца толькі адно: шукаць тыя дзверы, пра якія яшчэ не ведае ні ён сам, ні чытач.

А цяпер вернемся да пачатку нашых разважанняў: чаму не хацелася чытаць тыя ці іншыя старонкі федарэнкаўскай аповесці (або рамана В. Адамчыка "Год нулявы"). Як мы ўжо высветлілі, і "Вёска" А. Федарэнкі, і "Год нулявы" В. Адамчыка пісаліся ў такі момант іхняга творчага развіцця, калі яны з адной "іпастасі" пераходзілі ў другую: і Федарэнка, і Адамчык, пачаўшы з такога жанру, як апавяданне, падступаліся да новага, большага: аповесці або рамана.

І калі ў апавяданні яны дасягнулі пэўнага майстэрства, то з новымі формамі яшчэ не ўсё выходзіла гладка: сітуацыя, якая ў апавяданні мае зусім іншае значэнне -- на ёй, бадай, засяроджваецца цалкам уся ўвага і чытача, і пісьменніка, -- у вялікіх жанрах страчвае сваю канструктыўную значнасць: на першы план выходзіць сюжэт і шматбаковая, падрабязная і дасканалая распрацоўка вобразаў.

Але на тое ён і "нулявы момант", што яшчэ не ўсё асэнсавана, і не ўсім карыстаешся з поўнай мерай усведамлення: папярэдні вопыт настойліва падштурхвае пісьменніка выпісваць менавіта сітуацыі -- так, як ён з поспехам рабіў дагэтуль, -- а аповесць (або раман) ужо дыктуе аўтару новыя правілы (раман не дазваляе паставіць на сітуацыі так патрэбную чытачу кропку, бо яна найперш азначала б, што раман закончаны, -- адсюль і безвыходнасць шмат якіх раманных сітуацый). Але сам па сабе гэты "нулявы момант" не з'яўляецца чымся ўстойлівым і нязменным: яго трэба разглядаць толькі як момант фіксацыі творчага росту пісьменніка.

І калі вярнуцца да аповесці А. Федарэнкі "Вёска", то варта падкрэсліць зусім не тое, што падкрэсліў "нашаніўскі" крытык (каравяк на дарозе або тое, што Васкевіч, галоўны герой аповесці, не адкрывае нам (дадамо: ды і не мог адкрыць! -- **А.К.**) нічога новага (дадамо яшчэ, што прычынай гэтаму не бяздарнасць аўтара, а новыя творчыя задачы, што стаялі перад пісьменнікам).

Каштоўнасць аповесці ў іншым: у стварэнні пісьменнікам вялікай панарамы сучаснай вёскі з усімі яе брыдотамі, каштоўнасцямі, набыткамі і стратамі. І гэта панарамнасць дасягаецца не за кошт значнасці галоўнага героя -- ён гэткі, як і ўсе, і асаблівай сімпатыі не выклікае, -- а за кошт фрагментарнасці (або эпізадычнасці) -- за кошт стараннага, дэталёвага і майстэрскага апісання той ці іншай сітуацыі, эпізода, здарэння, за кошт дакладнасці і праўдзівасці другасных герояў аповесці. І тут Федарэнка яшчэ не эпік: ён яшчэ апавядальнік, які добра ведае, як будуецца гэты жанр. Але -- заўважце! -- аповесць "Вёска" -- відавочны ўзор таго, як апавядальнік перарастае ў эпіка (як гэта здарылася ў свой час з В. Адамчыкам).

Едучы той раз з Мінска і дачытваючы ў цягніку "шматпакутную" аповесць А. Федарэнкі, я раз-пораз спыняў свой позірк на дзвюх кабетах, што ехалі са мной разам у купэ. Гэта былі даволі спраўныя маладзіцы з паўнюткімі валізкамі (на кожную кабету -- па тры валізкі). Усю дарогу -- як толькі селі -- яны гаварылі пра куплю, пра продаж -- што танней, што даражэй, -- пра тое, як іх пазалетась абакралі ў цягніку, але ж, бачыш, зноў едуць і зноў з торбамі! Як у сваёй хаце -- не саромеючыся -- расклалі на купэйным століку ежу, смачна і грунтоўна елі і зноў гаварылі -- ні па-руску, ні па-беларуску, а так, як ім было зручней, і не падрабляліся ні пад кога: лічылі, што якраз так і трэба гаварыць, ужываючы словы то адной, то другой мовы, -- і ані не саромеліся ні таго, пра што гавораць, ні таго, як яны гэта робяць.

Наглядзеўшыся на іх да ачмурэння, вяртаўся да аповесці, а потым зноў пазіраў на кабет і штораз пераконваўся, што ім да лямпачкі і высокія матэрыі, і высокія ідэалы нашага беларускага адраджэння -- абы жылося заможна ды смачна елася! -- і яны гэтак і жылі, атрымаўшы ад дзяржавы такія-сякія свабоды -- мець прыстойную гаспадарку і гандляваць, -- і мне падумалася, а ці не меў рацыю пісьменнік Федарэнка, так яскрава паказаўшы ў сваёй аповесці **спрэс інстынкты і ані кроплі інтэлекту!** Што ж мы ламаем пёры ды галовы?! Вось яна -- перад намі! -- "федарэнкаўская вёска"!!! -- едзе побач у цягніку! І ёй -- добра, весела, хораша! Дрэнна, брыдка, агідна -- не ім! А найперш тым, каму баліць душа за **гэткую** вёску, -- нам з вамі.

Вось яна якая -- наша рэальнасць! Без прыкрасаў, з каравякамі на дарозе і ўсім астатнім. І пісьменнік, які -- хай і з некаторымі хібамі здолеў стварыць у сваёй аповесці гэту рэальнасць, заслугоўвае, напэўна, большай увагі і большай спагады, чымся мы бачым на старонках "Нашай нівы", дай Бог і ёй гэтулькі ж попыту і гэтулькі пашаны.

## 3. а) КРЫЎДА "ЭЎРАПЕЙЦА", б) КАТАРСІС ВОБРАЗАЎ

Пад самы канец вясны гэтага года ў беларускіх кнігарнях з'явіліся дзве новыя кнігі. Аднаго і таго ж аўтара -- Адама Глёбуса: "Дамавікамэрон" і "Толькі не гавары маёй маме..." (зборнік інтымнае прозы).

Выглядалі яны, у адрозненне ад нашай нясмачнай выдавецкай прадукцыі, даволі імпазантна: у прыгожых вокладках, папера найцудоўнейшая, друк таксама... Няўжо беларускія выдаўцы дасягнулі такіх вышынь?!

Перагортваем вокладку і -- што бачым?

"Дамавікамэрон" -- Выдавецтва BADPPR Мінск--Вільня--Беласток, 1994. **Друк:Беласток.**

"Толькі не гавары маёй маме..." -- Выдавецтва "Сучасная літаратура", 1995. **Друк: Выдавніцтво Войцэха Лявіцкага, Варшава, Польшча.**

Прыгожа? Шчэ як!

Ды хіба ў гэтым справа?! З'яўленне кнігі такой выдавецкай якасці трэба толькі вітаць. Але ж кніга -- гэта не толькі вокладка ды шыкоўная папера, а найперш -- яе змест. Які ён?

Пачаць хацелася б не з першай кніжкі, а з другой -- яна больш традыцыйная: і па тым, як яна складалася, і па тым, пра што ў ёй ідзе гаворка -- у кнізе сабрана амаль усё, што паспеў да гэтага часу напісаць Адам Глёбус. А першая, выдадзеная годам раней, -- гэта тое, да чаго прыйшоў аўтар, маючы за плячыма прыкладна каля шасці аповесцяў і "раман пра лёгкае расчараванне" (сам таго не ведаючы, аўтар трапна вызначыў не толькі свой стан на той час, калі пісаўся раман, але і падвёў вынік некаторым сваім разважанням пра жыццё).

З гэтага рамана і пачнём. Называецца ён "Дарагі мой сябра Адам..." (не біблейскі Адам, а рэальны, насампраўдашні Адам Глёбус, які прыехаў у Пецярбург, каб паглядзець, што гэта за горад, а потым зрабіўся галоўным героем кнігі пісьменніка Адама Глёбуса).

Мушу адразу папярэдзіць, што словам маім будзе ўласціва пэўная прадузятасць, але яе лёгка зразумець і дараваць: як ні кажы, а чалавеку, які пражыў у Піцеры даволі доўга, цікава пазнаёміцца з разважаннямі пра гэты горад другога чалавека, які прыехаў сюды на тыдзень ці два і спрабуе публічна выказаць сваё ўражанне ад такога кароткага наведвання.

Сам па сабе тэрмін візіту асаблівага значэння не мае: можна пабыць у Піцеры і тры гадзіны, але зразумець за гэты час самае галоўнае -- што ж гэта за горад, які кожнаму дазваляе (і дазваляў, асабліва ў 70—80 гады) дыхаць так, як табе хочацца, як табе лепей і зручней.

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**

*У ВЫДАВЕЦТВЕ "NAVIA MORIONUM"*

# КНІЖКА З "ЗОСІНАЙ ПАЛІЧКІ"

***Выдавецтва "Navia morionum" існуе ўжо не першы год. І хаця сёння прыватным кнігавыданнем наўрад ці можна каго здзівіць, яго гісторыя заслугоўвае асобай увагі.***

***На пытанні карэспандэнта "ГР" адказвае дырэктар выдавецтва і яго галоўны мастак Андрэй ФЯДОРЧАНКА.***

**-- Адкуль узялася назва вашага выдавецтва, што яна азначае!**

-- У перакладзе з латыні "Navia morionum" азначае "карабель дурняў". Адразу скажу, што ў нас ёсць і свая эмблема, якая мае вялікае значэнне, таму што адлюстроўвае ідэалогію выдавецтва, звернута да чытача і дае яму своеасаблівы знакавы адказ на пытанне -- што я знайду пад гэтай вокладкай? А намаляваны на нашай эмблеме тры мудрацы вядомага англійскага дзіцячага вершыка, якія падчас навальніцы пусціліся ў плаванне ў старым тазе. Праўда, замест таза мы ўзялі парасон, а сядзяць у ім не проста барадатыя старыя, а стылізаваныя Сакрат, Канфуцый і Ніцшэ... Але тут таксама ёсць пэўная доля іроніі, бо "карабель дурняў" -- гэта яшчэ і назва старажытнага еўрапейскага карнавальнага свята, якое адзначалі ў тых самых краінах, што сёння складаюць аб'яднаную Еўропу. Тым самым мы як бы заяўляем нашу галоўную мэту -- садзейнічаць рэінтэграцыі Беларусі ў Еўропу праз свае кнігі.

**-- З чаго ваша выдавецтва пачало сваю дзейнасць!**

-- Паколькі мы ўступілі ва ўжо насычаны кніжны рынак, то зразумелі, што нам трэба адразу неяк заявіць пра сябе. Нам хацелася, каб гэтае выданне "спрацавала" не толькі на беларускі рынак, а таму вырашылі зрабіць першую кніжку на рускай мове. І быў гэта "Серапіёнавы браты" Гофмана.

**-- І чаму менавіта гэта кніга!**

-- Гофман -- вельмі цікавы пісьменнік, якога быццам бы ўсе ведаюць, а на самай справе, як высвятляецца, добра не ведае ніхто. Мы памятаем Гофмана па некалькіх казках для дзяцей, хтосьці чытаў расказы, але не больш. Збор яго твораў так і не быў выдадзены, і мы выбралі раман, які не друкаваўся ажно з дарэвалюцыйных часоў. "Серапіёнавы браты" складаюцца з мноства навел, частку з іх многія чыталі, але ж далёка не ўсе і не ўсё... Ну і, напрыклад, добра вядомая казка "Шчаўкунок і мышыны кароль" у кантэксце гэтага рамана выглядае, як палітычная сатыра, чым яна, дарэчы, на самай справе і з'яўляецца. А вырваная з кантэксту, яна выглядае, як дзіцячая казачка.

Была і яшчэ адна прычына: гэта кніга ніколі не састарэе, бо ў ёй Гофман, зрабіўшы аналіз свайго часу, закрануў тыя якасці чалавечага грамадства, якія ніколі не змяняцца і заўсёды будуць цікавымі і актуальнымі.

**-- Але ж кніга даволі дорага каштуе і з'яўляецца своеасаблівым прадметам раскошы, недаступным радавому чытачу...**

-- Мы выдавалі звычайную кнігу. Такім на самай справе павінна быць звычайнае радавое выданне, прызначанае ўпрыгожваць паліцы магазінаў і сямейных бібліятэк. Такой, якой і павінна быць нармальная, добрая кніга.






**-- Як вы мяркуеце, ці чакаў гэтае выданне чытацкі попыт!**

-- Зараз, нягледзячы на шырокі асартымент кніжнага рынку, існуе недахоп пэўнага віду літаратуры. Гэта кнігі гуманітарнага накірунку, філасофская і каляфіласофская літаратура. Яшчэ да пачатку перабудовы існаваў адчувальны дэфіцыт такіх кніг, не задаволены попыт на іх і цяпер. Паверце, і тады, і зараз існуе шмат людзей, якія цікавяцца добрай, сапраўднай літаратурай.

**-- І нават зараз набываюць такія кнігі!**

-- Так, я спецыяльна пацікавіўся ў кніжных магазінах. Дык вось, нягледзячы на тое, што зараз людзям часта не хапае на ежу, кнігі набываюць. І не ўсе кніжныя магазіны зараз здаюць свае плошчы ў арэнду, некаторым удаецца існаваць, гандлюючы толькі кнігамі. І пры такой сітуацыі было б злачынствам апускаць рукі і выдаваць аднаго Чэйза ці ўвогуле нікога не выдаваць. Тым больш, я дакладна ведаю, што ў Расіі ў чыста камерцыйных мэтах выдаюць невядомых старажытнагрэчаскіх і старажытнарымскіх аўтараў, прычым, робяць гэта не навуковыя выдавецтвы, а прыватныя, таму што ведаюць пра існаванне цікавасці да антычнай літаратуры пэўнай часткі насельніцтва.



Наша кніжка мела рэзананс, яе адзначылі на Міжнародным кніжным кірмашы ў Мінску, быў надрукаваны артыкул у "Кніжным аглядзе".

**-- А што было далей!**

-- Калі мы сталі задумвацца, што рабіць далей, то праблема была не ў планах -- рэдакцыйны партфель поўны. На кірмашы правялі невялікі маркетынг і даведаліся, што існуе попыт на літаратуру па гісторыі Беларусі. У прыватнасці, мы падрыхтавалі вельмі цікавую кнігу і зараз шукаем грошы на яе выданне. Гэта гербоўнік Вялікага Княства Літоўскага. Яшчэ ў XIX стагоддзі яго падрыхтавала польская арганізацыя, якая займалася геральдыкай. Там ёсць выявы гербаў, навуковыя каментарыі да кожнага. Таксама была запланавана серыя дзіцячых кніжак на беларускай мове. Але ж у нас не было сродкаў. Мы звярнуліся да Беларускага фонду Сораса, дзе нам і дапамаглі.

**-- І што атрымалася з вашага супрацоўніцтва!**

-- А атрымалася дзіцячая кніжка пад назвай "Кася ў школцы", якая ў гэтым месяцы паступіць у кніжныя магазіны. Сама серыя "Зосіна палічка", у якой яна выходзіць, свайго роду спроба адрадзіць створаны некалі выдаўцом Сыцiным інстытут недарагой дэмакратычнай, даступнай для ўсіх слаёў грамадства кнігі, калі мінімальныя выдаткі на яе кампенсаваліся выдатнай працай мастакоў і друкароў. Дастаткова простыя тэзісы кнігі павінны дапамагчы дзіцяці разабрацца ў такіх чалавечых каштоўнасцях, як сям'я, сяброўства, хатні ачаг, увогуле, традыцыйных, аблаяных мяшчанскімі і, на жаль, забытымі. У канцы кніжкі знаходзіцца невялікі слоўнічак беларускіх слоў з малюнкамі. Ён дапаможа дзецям, якія ў гэтым годзе пайшлі ў беларускую школу, у вывучэнні роднай мовы.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# БЯРОЗА КАЛЯ ТРОХ ДАРОГ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Мяне нават запрасілі ў суседні пакой, дзе сабраліся Толевы застольнікі Анатоль Вялюгін, Антон Бялевіч, Міхась Машара ды Рыгор Няхай, і налілі келіх поўны як вока. Праўда, Толя ціхамірна прабурчэў, што і па-беларуску гавораць "цюцелька ў цюцельку", але каўтнуць можаш за самастойную знаходлівасць. "Робіш поспехі", -- ухваліў ён. І віншаваў, калі мяне запрасілі ў штат рэдакцыі тагачаснага "ЛіМа", паверыўшы ў маю пісьменнасць.

З трох крыніц я жывіўся, захапляючыся хараством мілагучнай мовы беларусаў, -- гэта галасы слынных тады дыктараў радыё Любові Батвіннік і Уладзіміра Юрэвіча, гэта незабыўныя спектаклі купалаўцаў "Паўлінка", "Апошнія", "Рамэо і Джульета" і... Але ён -- Толя. Яркраз праз яго я ўразумеў арганічнае самаадчуванне і натуральную самасвядомасць нацыянальна годнай асобы, што выказана так эмацыянальна ўзрушана і важка Янкам Купалам:

**І калі здзекваецца<br>нада мною хтосьці --<br>Над Бацькаўшчынай<br>здзекваецца ён маёй,<br>Калі ж на ёй -- мяне<br>тым крыўдзіць найцяжэй...**

Ці выпадкова Толя ў вайну двойчы з Масквы, дзе працаваў у рэдакцыі газеты-плаката "Раздавим фашысцкую гадзіну", выпраўляўся ў тыл ворага, да партызан (пешшу -- на Віцебшчыну ў сорак другім і самалётам праз лінію фронту на Міншчыну ды Гомельшчыну ў сорак трэцім). Трапляў у засады, праваліваўся ў балотную твань па пояс, патаемнымі сцежкамі з аўтаматам і алоўкам блукаў па роднай зямлі, змагаючыся разам з баявымі пабрацімамі за годнасць і незалежнасць Беларусі. Слуцкая падпольная газета "Народны мсцівец", што друкавалася на акупаванай тэрыторыі, сабрала лепшыя ваенныя творы Астрэйкі і выдала іх асобнай кніжкай. Партызаны-разведчыкі Саша Бяляеў і Саша Залаты афармлялі яе, выразалі застаўкі з дубовых цурак, а фарбу зрабілі з сумесі ваксы для нямецкіх афіцэрскіх ботаў і комінных сажы. На трафейнай паперы. "Слуцкі пояс" -- унікальнае выданне, якое не мае, як цяпер кажуць, аналагаў у гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Літаратурны помнік трагічнага і ганаровага подзвігу народа. Як і "Песня пра Нёман", створаная паэтам у садружнасці з кампазітарам Нестарам Сакалоўскім.

Вышэйшы камплімент, які чуў калі-небудзь Анатоль, былі словы Якуба Коласа: "Ведаеш, сынок, мо гэтая твая песня перажыве ўсе твае кніжкі і ўсе астатнія творы Несцера, бо ваш "Бацька..." зрабіў нат раку Нёман нібы самай у нас галоўнай і сімвалічнай для Беларусі, хаця такой мог быць і Дняпро, і Буг або Бярэзіна. Ды заспявалася вось з лёгкай Астрэйкавай рукі... з лёгкага голасу Сакалоўскага... Ой, Бацька наш Нёман..."

Пахвалу і адабрэнне Толя пры жыцці чуў і чытаў у свой адрас не надта часта. Сціплы хлопец. Руплівец на літаратурнай ніве. Цудоўны лірык. І -- пужаны аглабельнай крытыкай. Дысцыплінаваны выканаўца сацыяльнага заказу. Любіў гаварыць, што сам, грэшны, не мог бы піць дыстыляванай вады пры самай пакутлівай смазе. І ніколі не цураўся жыцця ва ўсёй яго супярэчлівай складанасці. "Я і мае памылкі..." -- так, здаралася, пачынаў размову пра свае вершы, пра ваенныя прыгоды, пра свой лёс. Магчыма, такім і наканавана быць сапраўднаму паэту. Асабліва, калі пачынаеш творчы шлях ад бярозы на скрыжаванні трох аднолькава зманлівых дарог: направа пойдзеш... налева пойдзеш... ці наўпрост -- праз лес, праз балота, праз горы...

**Барыс БУР'ЯН.**



# ШАГАЛ ЗНОЎ У ВІЦЕБСКУ

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь атрымала дакументы з Міністэрства культуры Францыі на чарговы шагалаўскі пленэр, прысвечаны 110-годдзю з дня нараджэння маэстра.

Ён адкрыецца 6 ліпеня 1997 года. Мастацкі кіраўнік -- Ірына Мятліцкая, вядучы спецыяліст па выяўленчаму мастацтву Міністэрства культуры рэспублікі.

Заснавальнікамі пленэра выступаюць 4 краіны, з якімі Шагала звязаў лёс: Беларусь, Ізраіль, Францыя (дзе доўга жыў майстар) і Расія.

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 942. Падпісана да друку 9. 9. 1996 г.**